# Наша Свабода

№8(235) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

23 СТУДЗЕНЯ 2002 году СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## Ганчара – знайсці, Клімава – вызваліць

### *Патрабуюць парламентары свету*

Камісія па абароне правоў парламентарыяў Міжпарламенцкага саюзу – арганізацыі, куды ўваходзяць парламенты больш як ста краін свету, – выказала занепакоенасць лёсам трох дэпутатаў Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га склікання.

Паводле звестак грамадскай ініцыятывы «Хартыя'97», на пасяджэнні камісіі ў канцы мінулага тыдня ў Жэневе разглядаліся справы Віктара Ганчара, які знік у Мінску восенню 1999 году, Андрэя Клімава, які адбывае турэмнае зняволенне, і Валерыя Шчукіна, які нядаўна адбыў у калоніі трохмесячны тэрмін. Як паведаміў журналістам пасля пасяджэння генеральны сакратар Міжпарламенцкага саюзу Андэрс Джонсан, камісія выказала глыбокую занепакоенасць тым, што, нягледзячы на працяглы час, які прайшоў з дня знікнення Віктара Ганчара, у расследаванні гэтай справы не назіраецца ніякага прагрэсу. Вырашана звярнуцца да беларускіх уладаў з патрабаваннем расследаваць абставіны знікнення Ганчара больш сур'ёзна.

Камісія таксама вырашыла запатрабаваць ад уладаў Беларусі вызвалення Андрэя Клімава. У найбліжэйшы час адпаведныя дакументы будуць адпраўлены беларускім уладам, заявіў Андэрс Джонсан.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Віка не пушчаюць

Былы кіраўнік КНГ АБСЕ ў Беларусі пасол Ханс-Георг Вік, які зараз жыве ў Берліне і мае намер наведаць Беларусь, пакуль не атрымаў візы на ўезд у Беларусь. Пра гэта ён паведаміў карэспандэнту БелаПАНу ў тэлефоннай гутарцы 22 студзеня. Беларуская віза неабходная паслу Віку дзеля таго, каб узяць удзел у першым пасяджэнні ў Мінску 25-26 студзеня міжнароднай назіральнай рады Цэнтру еўрапейскіх і трансатлантычных даследаванняў пры Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. Нямецкі дыпламат – сябра гэтае рады. Сам жа цэнтр стварыўся пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскай камісіі і Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) – структурнага падраздзялення АБСЕ.

**Уладзімір ГЛОД**

# Ці спыніцца МТЗ?



*Мінскі трактарны завод ледзьве не спыніў працу з-за адсутнасці наяўных сродкаў. Аднак пакуль завод працуе.*

Учора на МТЗ адбылася нарада пастаўшчыкоў. Як паведаміў нам прэс-сакратар заводу Вадзім Біцан, міністэрства прамысловасці разаслала адмысловыя тэлеграмы па беларускіх прадпрыемствах, якія займаюцца пастаўкай камплектуючых на МТЗ. Усяго такіх прадпрыемстваў каля 100, сярод іх – Мінскі маторны завод, Мінскі завод шасцерань, Барысаўскі завод аўтатрактарнага электраабсталявання (БАТЭ) і інш.

Тэлеграмы запрашалі кіраўнікоў прадпрыемстваў-сумежнікаў на сход, дзе мусіў вырашацца далейшы лёс заводу. Бо, як паведаміў В.Біцан, спыніцца канвеер МТЗ – скончыцца праца і ў пастаўшчыкоў.

Па словах прэс-сакратара заводу, пастаўшчыкі МТЗ з Беларусі пайшлі насустрач заводу і выказалі гатоўнасць і далей супрацоўнічаць з ім – нават ва ўмовах адсутнасці фінансавання. Але на адных беларускіх камплектуючых трактара не зробіш – МТЗ замаўляе дэталі ў Расіі, Украіне, іншых замежных краінах. Таму, каб не перапынілася праца канвееру, учора ўвечары дырэктар МТЗ па маркетынгу выправіўся ў Маскву – «утрасаць справы» з расійскімі сумежнікамі.

Праца заводу застаецца напружанай. «Заўтра завод будзе працаваць. Што будзе пасляззаўтра -- пытанне», – сказаў учора Вадзім Біцан.

Па ягоных словах, кіраўніцтва МТЗ паставіла задачу – выпусціць за студзень 1 200 трактароў. У гэтым выпадку працаўнікі змогуць атрымаць заробак. На люты запланаваная лічба ў 2 300 трактароў.

Як паведаміў прэс-сакратар МТЗ, сёння на заводзе мусіць быць выплачаны заробак за снежань – але толькі часткова, у памеры, эквівалентным «мінімальнаму спажывецкаму кошыку». Выканаўца абавязкаў дырэктара Леанід Крупец настойвае, аднак, на тым, каб да канца месяца працаўнікі атрымалі ўвесь заробак за снежань.

Апошнім часам Мінскі трактарны завод жыў у вельмі складаных умовах. Шмат якія партнёры МТЗ працавалі з ім толькі дзякуючы персанальным дамоўленасцям і высокаму аўтарытэту Міхаіла Лявонава. Пасля ягонага арышту справы пайшлі значна горш.

У мінулую пятніцу В.Біцан паведаміў прэсе, што канвеер МТЗ восьвось спыніцца, бо прадпрыемства не мае фінансавых магчымасцяў працягваць працу. Потым ён удакладніў, што заводу засталося працаваць апошнія два дні – 21 і 22 студзеня.

У выпадку, калі канвеер Мінскага трактарнага заводу спыніцца, больш за 19 000 людзей застануцца без працы.

*Заканчэнне на стар.3*




## Колькі збяром збожжа?

Як паведаміла агенцтва БелаПАН, гаспадаркам Мінскай вобласці паставілі задачу па рэкорднай нарыхтоўцы збожжа. У панядзелак адбылося пасяджэнне аблвыканкаму, на якім да працаўнікоў сельскагаспадарчага комплексу вобласці «давялі» лічбу: рэгіён мусіць сабраць сёлета 2 млн. 231 тысячу 638 тон збожжа.

Адзначым, што 2001 год быў вельмі някепскім для беларускай сельскай гаспадаркі. Але ў гэты год удалося сабраць па ўсёй краіне крыху болей за 5 мільёнаў тонаў збожжа (хоць спачатку рапартавалі пра 6 мільёнаў тонаў). Мінская вобласць была адной з самых паспяховых – яна сабрала 1 мільён 205 тысяч 380 тон зерня. Цяпер жа амбітнае кіраўніцтва вобласці плануе амаль двухразовае перавышэнне леташняга выніку. Як паведаміў БелаПАНу старшыня камітэту па сельскай гаспадарцы і харчаванні аблвыканкаму Мікалай Дамаркаў, ярыною і азімымі культурамі будзе засеяна 400 тысяч гектараў (плюс 10% страхавых), азімымі – 300 тысяч гектараў, кукурузай – 100 тысяч гектараў.

Для выканання ўсіх пасяўных работ спатрэбіцца 12 тысяч адзінак сельскагаспадарчай тэхнікі. На яе рамонт з абласнога бюджэту выдзелена 400 мільёнаў рублёў.

Застаецца невядомым, на чым менавіта грунтуецца аптымізм чыноўнікаў з Мінскай вобласці. Што гэта – надзеі на добрае надвор'е, самааддананасць працаўнікоў або проста на шанец? Бо наўрад ці атрымаецца проста дамаляваць неабходныя лічбачкі – гэта кіраўнік Мінскага аблвыканкаму Мікалай Дамашкевіч мусіць усведамляць як ніхто. Ён у свой час ачольваў камітэт дзяржаўнага кантролю.

Досвед мінулага году, калі спачатку «парадавалі» А.Лукашэнку лічбай у 6,2 мільёна тонаў сабранага збожжа, а потым, як пералічылі, аказалася ледзьве не на мільён меней, мусіць насцярожыць кіраўніка дзяржавы. Сёлета ён проста абавязаны скептычна ставіцца да любой статыстычнай інфармацыі пра ход уборкі збожжа.

**Ірына СТАРЦАВА**

## ВЕСТКІ



### Паменеў «мастацкі» падатак

Цяпер сталічныя мастакі, што гандлююць жывапіснымі, графічнымі і скульптурнымі творамі, а таксама рознымі дэкаратыўнымі вырабамі, будуць сплачваць падатак у памеры 20 еўра на месяц. Дагэтуль стаўка гэтага падатку раўнялася 55 еўра.

### Полацк займее гімн

Хутка ў гораду Полацку з'явіцца свой гімн. Полацкі гарвыканкам абвясціў адкрыты гарадскі конкурс на лепшую песню, якая стане полацкім гімнам. На першым этапе адбяруць лепшы тэкст, на другім – музыку, на трэцім, у красавіку, можна будзе паслухаць лепшыя творы ў канцэртным варыянце.

### Інфляцыя набірае абароты

У Беларусі працягваюць расці тэмпы інфляцыі. Па звестках міністэрства статыстыкі і аналізу, за першыя два тыдні першага месяца новага году спажывецкія цэны павялічыліся на 3,5%. Апошнім часам большыя тэмпы назіраліся толькі ў верасні 2000 году (4%). Беларускі ўрад і Нацбанк прагназуюць сёлета рост цэнаў у межах 20-27%.

### Крэдыт супраць хваробаў

Сусветны банк выдзеліць сёлета нашай краіне крэдыт на прадухіленне распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі і іншых захворванняў, што перадаюцца палавым шляхам, а таксама сухотаў.

### Страхавыя ўнёскі акруглілі

Памеры ўнёскаў па абавязковым страхаванні адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў – нерэзідэнтаў у Беларусі акруглены да найбліжэйшага цэлага. Гэта зроблена дзеля спрашчэння разлікаў і каб пазбегнуць цяжкасцяў з-за адсутнасці ў абарачэнні дробнай гатоўкі ў еўра.

### Крэдыты на будаўніцтва можна браць далярамі

Нацыянальны банк Беларусі дазволіў беларускім банкам выдаваць крэдыты на будаўніцтва, рэканструкцыю ці набыццё жылля, а фізічным асобам іх атрымліваць не толькі ў беларускіх рублях, але таксама і ў далярах альбо іншай замежнай валюце.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

**1700**

## Калугін будзе за кратамі як мінімум 3 месяцы

21 студзеня працягнуты тэрмін утрымання пад вартай былога кіраўніка закрытага акцыянернага таварыства «Атлант» Леаніда Калугіна, затрыманага 21 лістапада мінулага году. Як паведаміў БелаПАНу адвакат Леаніда Калугіна Аляксандр Пыльчанка, тэрмін арышту працягнулі яшчэ на тры месяцы — да 21 красавіка гэтага году. Леанід Калугін абвінавачваецца ва ўчыненні злачынстваў па артыкулах 424, частка 3 (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі), 225 (невяртанне з-за мяжы замежнай валюты) і 233, частка 2 (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць) Крымінальнага кодэксу РБ. Следства ў дачыненні да яго вядзе следчая група дэпартаменту фінансавых расследаванняў Камітэту дзяржкантролю Беларусі.

Леанід Калугін сваёй віны не прызнае, лічачы, што ва ўсіх эпізодах, якія фігуруюць у ягонай крымінальнай справе, ён дзейнічаў выключна ў інтарэсах прадпрыемства, якое ён ачольваў і якому не нарабіў ніякай эканамічнай шкоды.

9 студзеня Калугін быў пераведзены са следчага ізалятару ГУУС Мінгарвыканкаму ў Рэспубліканскую псіхіятрычную клініку для правядзення псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы, дзе знаходзіцца дагэтуль. На думку абаронцы Калугіна, яго пераводзілі туды незаконна. «Каб змясціць падазронага або абвінавачанага, які знаходзіцца ў следчым ізалятары, у медыцынскую ўстанову для правядзення экспертызы, следчы павінен вынесці асобную пастанову, — сказаў Пыльчанка. — Неабходная таксама санкцыя пракурора. На сённяшні дзень ніякай асобнай пастановы аб правядзенні стацыянарнай экспертызы няма, як няма і санкцыі пракурора».

Паводле словаў адваката, пытанне аб падачы скаргі на рашэнне аб працягу тэрміну ўтрымання пад вартай зараз узгадняецца з Калугіным. Як адзначыў Пыльчанка, «неабходна ўтрымліваць пад вартай людзей, якія ўчынілі забойства ці згвалтаванне», але не дырэктара заводу, «які прайшоў шлях ад рабочага да кіраўніка і за ўсё жыццё нікому зла не зрабіў».

«Калугін не можа ўздзейнічаць на ход следства, бо ўжо не з'яўляецца дырэктарам. У рэшце рэшт, можна было прымяніць такую меру стрымання, як хатні арышт», — лічыць абаронца.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Чыноўнікі супраць газет

Выдавец *Новой газеты Сморгони* Рамуальд Улан марна спрабуе зарэгістраваць дзве новыя газеты ў суседніх Астравецкім і Ашмянскім раёнах. Чыноўнікі зноў адмовілі яму.

У мінулым снежні абласны гаспадарчы суд прызнаў папярэднюю адмову несапраўднай. Паколькі такое рашэнне прыняў старшыня Смаргонскага райвыканкаму, а не члены выканкаму, як павінна быць па законе. Але гэтая маленькая перамога мала што давала Р.Улану. Суд не змог бы, нават калі б захацеў, прымусіць чыноўнікаў прыняць станоўчае рашэнне. І вось цяпер сабраліся ўжо члены выканкаму, якія выказаліся адназначна: не дазволіць рэгістрацыі новых газет.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## «Голас душы» павінен гучаць

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны выступіў са спецыяльнай заявай, датычнай забароны на Беларускім радыё хрысціянскай перадачы «Голас душы», якую вёў ксёндз-пробашч касцёлу св. Сымона і Алены Уладзіслаў Завальнюк.

«Цягам 8 гадоў па першай праграме Беларускага радыё гучала духоўная перадача «Голас душы». Яе чакалі і слухалі не толькі каталікі, але і вернікі іншых канфесіяў. На вялікі жаль, перад каталіцкімі Калядамі духоўная праграма знікла з эфіру. Тысячы вернікаў былі пазбаўленыя магчымасці ўдзельнічаць у набажэнстве, якое лекавала нямоглых, давала моц, натхняла і ўзвышала.

Таварыства беларускай мовы абуранае нечаканымі дзеяннямі ўладаў, па загадзе якіх ліквідаваная патрэбная народу духоўная перадача, і патрабуе аднавіць трансляцыю «Голасу душы» з касцёлу Святых Сымона і Алены».

**БІЗНЕС**

## «Балтика» змагаецца да апошняга

Як паведамілі дасведчаныя крыніцы, у панядзелак у Мінск завітаў «нумар 2» расійскага ЗАТ «Пивоваренная компания Балтика» – віцэ-прэзідэнт кампаніі Адам Тлехурай. На яго кіраўніцтва «Балтики» ўсклала перамовы з беларускім урадам – каб адстаяць свае «правы» на «Крыніцу».

У мінулым нумары мы паведамлялі, што, паабяцаўшы спачатку расійскай «Балтике» кантроль над мінскім броварам, беларускае кіраўніцтва потым змяніла свой пункт гледжання на гэтую праблему і ўжо не хоча развітвацца з кантрольным пакетам акцыяў.

Тым часам, расійскі інвестар ужо ўклаў у развіццё «Крыніцы» больш за 5 мільёнаў даляраў. Змагацца за лёс гэтых інвестыцыяў – як і за лёс усяго інвестыцыйнага праекту – мусіць цяпер А.Тлехурай. Разам з ім перамовы з урадам вядуць прадстаўнікі самой «Крыніцы», а таксама канцэрну «Белдзяржхарчпрам», у склад якога ўваходзіць пакуль бровар.

Пакуль перамовы з Саветам міністраў не прынеслі жаданага поспеху. Аднак, як перадаў «Интерфакс», і ў «Белдзяржхарчпраме», і на «Крыніцы» разлічваюць, што «пытанне будзе вырашанае станоўча» ўжо да канца студзеня. Гэта значыць, што праз дадатковую эмісію акцыяў, якія набудзе расійскі інвестар, «Крыніца» сама стала расійскай.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**КАНФЕРЭНЦЫЯ**

## Спроба пашырыць дэмакратычны альянс

Вынікам трохдзённай міжнароднай канферэнцыі «Палітычныя перспектывы для Беларусі», якая прайшла 18-20 студзеня ў германскім Патсдаме, сталася камюніке пра неабходнасць стварэння шырэйшага дэмакратычнага альянсу ў нашай краіне.

Альянс мяркуецца пашыраць на базе існуючых дэмакратычных аб'яднанняў, найперш Кансультацыйнае рады апазіцыйных палітычных партыяў. Распрацоўкай новых стратэгіяў інтэграцыі Беларусі ў Еўропу мусіць заняцца германскі Фонд Фрыдрыха Наўмана, які і фінансаваў арганізаваную ліберальнай групай ПАСЕ канферэнцыю.

Беларусь на міжнародным форуме ў Патсдаме прадстаўлялі блізу 20 палітыкаў – як апазіцыйных, так і афіцыйных.

**Рыгор БУЯН**

## Мінёры патрэбныя дагэтуль

21 студзеня ў Беларусі адзначалі Дзень інжынерных войскаў.

Як заявіў у інтэрв'ю БелаПАНу начальнік інжынерных войскаў Узброеных сіл Беларусі палкоўнік Сяргей Лучына, «сёння, як і ў ваенны час, інжынерныя войскі Беларусі выконваюць дзве асноўныя задачы – суцэльнае размініраванне і знішчэнне выбуховых прадметаў». З часу вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 годзе ваеннымі сапёрамі на тэрыторыі краіны абясшкоджана, па інфармацыі палкоўніка Лучыны, 27 млн. боепрыпасаў, з іх 6,5 тысяч — летась.

Да гэтага часу беларуская зямля ў некаторых месцах нашпігаваная выбухованебяспечнымі прадметамі, у тым ліку, паводле словаў Сяргея Лучыны, і з часоў першай сусветнай вайны. Лучына сказаў, што сёння належыць ачысціць ад мін і снарадаў 353 квадратныя кіламетры, і найбольш «забруджаная» ў гэтым сэнсе — Віцебская вобласць. «Суцэльнае размініраванне — вельмі дарагое мерапрыемства і вельмі рызыкоўнае», — адзначыў Сяргей Лучына. Насамрэч сярэдні кошт размініравання аднаго гектара ў Беларусі — 1,5 тыс. даляраў.

Важны аспект размініравання — гэта барацьба з тэрарызмам. Паводле словаў Лучыны, «трацiл вечны», ён не распадаецца і не траціць з цягам часу сваіх небяспечных уласцівасцяў. Таму зламыснікі часта выплаўляюць трацiл са старых снарадаў для стварэння сваіх «пякельных машын».

Урад Канады, згадаў Лучына, ужо выдзеліў інжынерным войскам Беларусі 20 сучасных металашукальнікаў, а яшчэ збіраецца праводзіць за свой кошт навучанне рухомых груп размініравання.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

**МАРАЛЬ**

## Падпалілі чалавека

З апёкамі 50% цела дастаўлены ў мінулыя выходныя ў бальніцу 51-гадовы жыхар Баранавічаў (Брэсцкая вобласць), якога, як мяркуецца, аблілі бензінам і падпалілі падлеткі.

19 студзеня мужчына выпіваў у кватэры свайго сябра, які жыве з ім у адным доме. Паводле словаў гаспадыні, госць пайшоў дадому каля 22 гадзін. Каля 23 гадзін ён прыбег назад, ахоплены полымем. «Хуткая дапамога» забрала мужчыну ў непрытомнасці. 20 студзеня, калі да мужчыны вярнулася памяць, ён расказаў, што па дарозе дамоў да яго падышлі чацвёра падлеткаў 16-18 гадоў, аблілі бензінам і падпалілі. Па меркаванні ўрачоў, стан пацярпелага цяжкі.

Паводле інфармацыі прэсслужбы УМНС, у гэтым годзе на Брэстчыне ў агні загінулі 23 чалавекі, 5 з якіх — дзеці. На мінулым тыдні ў цяжкім стане з апёкамі былі дастаўлены ў бальніцу тры чалавекі — бацька і двое яго дзяцей, 4 і 2 гадоў. Па папярэдняй інфармацыі, пажар у доме рабочага саўгасу «Пяскоўскі» Бярозаўскага раёну адбыўся праз паленне ў нецвярозым стане.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

**КРЫМІНАЛ**

## Па злачынствах «лідзіруе» Магілёўшчына

У Магілёўскай вобласці ў 2001 годзе адзначаны самы высокі ў Беларусі ўзровень злачыннасці.

Паводле статыстыкі, летась на 100 тысяч жыхароў вобласці прыпала 107 злачынстваў, тады як у сярэднім па краіне – 84.

**Канстанцін УВАРАЎ**

**КАДРЫ**

## Валянціна Палевікова ўзялася за «Надзею»

14 студзеня Валянціна Палевікова сышла з Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, пакінуўшы вакантнымі пасады сакратара выканкаму і кіраўніка інфармацыйна-аналітычнага ўпраўлення. Свой крок В.Палевікова патлумачыла нязгодай з цяперашняй палітыкай ФПБ. «Краевугольным каменем у дзейнасці Федэрацыі з прыходам новага старшыні пастаўлены тэзіс, што прафсаюзы ніяк не павінны заплямляць сябе палітыкай, прафсаюзы мусяць на яе ўплываць, але па-за межамі ФПБ. Мне гэта незразумела, таму я і прыняла рашэнне – сысці», – кажа В.Палевікова.

Цяпер Валянціна Палевікова мяркуе шчыльней заняцца падняццем іміджу партыі жанчын «Надзея» – партыі, створанае ў 1994 годзе на прафсаюзнай базе, якую яна і ўзначальвае ад моманту заснавання. Зараз «Надзея» шукае сабе новы офіс, з тым каб у канцы студзеня сабраць Савет партыі. Кіраўніцтва «Надзеі» мусіць распачаць падрыхтоўку да з'езду, які, хутчэй за ўсё, пройдзе ў першай палове лютага. На парадку дня – падвядзенне вынікаў удзелу ў прэзідэнцкіх выбарах, а таксама прыняцце плана дзеянняў на найбліжэйшую перспектыву. Гаворка, перш за ўсё, ідзе пра падрыхтоўку да выбараў у мясцовыя Саветы ўвесну 2003 году.

Што да правядзення кансультацыяў з партыяй БСДП Аляксея Караля, якая цяпер знаходзіцца ў працэсе стварэння, і БСДГ Станіслава Шушкевіча наконт магчымага аб'яднання, то В.Палевікова пацвердзіла гэтую інфармацыю. «Нас запрашалі ўдзельнічаць у перамовах. Я, у прыватнасці, як чалавек асцярожны, які цэніць усё ўжо створанае, лічу, што жаночы рух апраўдаў сябе палітычна, і яго трэба ўмацоўваць. Я вельмі асцярожна адношуся да гэтай ініцыятывы і буду радзіцца з Саветам партыі», – падкрэсліла В.Палевікова.

**Рыгор БУЯН**

**НАШЫ ГАРАДЫ**




«Можа і мне машыну памыць?» – думаюць кіроўцы

**ТЭХНАЛОГІІ**

## Космас у дапамогу

У беларускім навукова-даследчым аб'яднанні «Кібернетыка» плануецца ў інтарэсах міністэрства па надзвычайных сітуацыях ды іншых ведамстваў краіны стварыць цэнтр апрацоўкі касмічных здымкаў. У інстытуце ўжо ўстаноўлена антэна прыёму інфармацыі са штучных спадарожнікаў Зямлі, аднак «якасць атрыманых здымкаў пакуль яшчэ невысокая», — паведаміў загадчык лабараторыі картаграфічных сістэм і тэхналогій Інстытуту тэхнічнай кібернетыкі Аляксандр Кручкоў.

У рамках дзвюх саюзных праграм — «Космас Беларусь–Расія» і «Скіф» — у Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі праводзяцца работы па аўтаматызацыі дэшыфроўкі касмічных здымкаў Зямлі. Гэтыя канверсійныя праграмы (не сакрэт, што першае і галоўнае прызначэнне штучных спадарожнікаў Зямлі — стратэгічная разведка. – *БелаПАН*) з'яўляюцца прамым працягам яшчэ савецкіх саюзных праграм і выконваюцца Беларуссю і Расіяй на парытэтных падставах: выкарыстоўваюцца расійскія спадарожнікі і апаратна-праграмныя комплексы апрацоўкі інфармацыі беларускіх спецыялістаў.

Паводле словаў Аляксандра Кручкова, апрацоўка адлюстраванняў — гэта «цяжкі, навукаёмкі і працаёмкі працэс», і спосабам дасягнення мэты «можа стацца выкарыстанне суперкамп'ютэра «Скіф», які мае гэтак званую «паралельную архітэктуру». Шматканальная (паралельная) апрацоўка дадзеных можа «вырашыць задачу атрымання вынікаў дэшыфроўкі ў рэальным маштабе часу», што дазволіць аператыўна рэагаваць на розныя надзвычайныя сітуацыі.

**БелаПАН**

# Беларусь застаецца за межамі ПАСЕ

Дзве беларускія дэлегацыі – афіцыйная і апазіцыйная – прысутнічаюць на сесіі Парламенцкай асамблеі Савету Эўропы ў Страсбургу, якая пачалася 21 студзеня.

«Беларускае пытанне» тут будзе разглядацца толькі ў вельмі вузкім кантэксце – на Камітэце па адукацыі, навуцы і СМІ 24 студзеня. На ім свае погляды на становішча «чацвёртай улады» ў Беларусі выкладуць прадстаўнікі незалежнага сектару на чале з прэзідэнтам БАЖ Жаннай Літвіной і афіцыйных мас-медыя на чале з міністрам інфармацыі Міхаілам Падгайным. Аднак гаворка пра вяртанне статусу «спецыяльна запрошанага» для Беларусі ў ПАСЕ весціся не будзе.

Новы старшыня Парламенцкай асамблеі Петэр Шыдэр пацвердзіў, што Югаславія, Боснія і Герцагавіна маюць вялікія шанцы стаць сёлета членамі ПАСЕ. Беларусь пазбаўленая такой перспектывы. «Сёння ў Беларусі існуюць абсалютна неприымальныя стандарты ў галіне правоў чалавека», – сказаў Петэр Шыдэр. «Што да шанцаў Беларусі, то тут шмат песімізму, і сітуацыя з правамі чалавека не адпавядае прынцыпам Савету Эўропы». Шыдэр таксама адзначыў, што ў адносінах да Беларусі трэба шукаць магчымасці «не даць ёй спаўзці да ўсталявання дыктатуры».

**Рыгор БУЯН**

# Выкараніць хваробу

Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) паставіла задачу выкараніць адзёр у Эўропе да 2007 году. У Беларусі распрацоўваецца свая стратэгія ліквідацыі гэтай хваробы.

Як паведаміла БелаПАНу загадчыца лабараторыі імунапрафілактыкі Навукова-даследчага інстытуту эпідэміялогіі і мікрабіялогіі Алена Самайловіч, асноўным кірункам стратэгіі будзе зніжэнне долі ўспрымальных да адру коштам планавай вакцынацыі.

У апошнія гады колькасць захворванняў на адзёр у Беларусі зменшылася. Калі ў 1992 годзе паказчык быў 22,6 на тысячу насельніцтва, то ў 2000 годзе ён склаў толькі 0,21 на такую самую колькасць насельніцтва. Для спынення перадачы вірусу адру колькасць успрымальных да яго асоб не павінна перавышаць 10% сярод дзяцей ад 1 году да 15 гадоў і 5% — сярод дарослых. Пакуль, на жаль, у некаторых узроставых групах колькасць успрымальных асоб вышэй за ўстаноўленыя параметры. Паводле словаў Алены Самайловіч, сёння супраць адру прышчапілі 95% насельніцтва Беларусі. Неабходна дамагчыся ўсеагульнай вакцынацыі, толькі тады вірус адру перастане цыркуляваць на тэрыторыі рэспублікі.

**Вольга АСІПЕНКА**

**КІНЕМАТОГРАФ**

# Рэжысёр на свабодзе, але кіна не будзе

Павел Сапелка падаў скаргу на імя следчага УУС Першамайскага раёну Мінску Аляксандра Хіцева, які праводзіць расследаванне ў дачыненні да яго падабароннага, рэжысёра кінастудыі «Беларусьфільм» Руслана Зголіча.

Крымінальная справа ў дачыненні да Зголіча была ўзбуджана па просьбе кіраўніцтва кінастудыі «Беларусьфільм». Канфлікт маладога кінарэжысёра з кіраўніцтвам узнік падчас працы над яго першым фільмам «Эскіз на маніторы». Лічачы, што бюджэт фільма яшчэ не вычарпаны, Зголіч папрасіў дазволу працягнуць працу. Аднак яму ў гэтым адмовілі, спасылаючыся на адсутнасць сродкаў. Пасля звароту Зголіча са скаргамі ў розныя інстанцыі яго адхілілі ад мантажу ўласнага фільма. У гэты час зніклі некаторыя матэрыялы карціны. У крадзяжы абвінавацілі Зголіча; рэжысёра перасталі пускаць у яго працоўны кабінет.

7 снежня супраць Руслана Зголіча ўзбудзілі крымінальную справу; ён быў затрыманы і правёў двое сутак у ізалятары часовага ўтрымання. У ізалятары рэжысёр быў збіты, што пацвердзілі медыкі. Ён заявіў следчаму адвод, аднак яго хадайніцтва не было разгледжана. 31 снежня Зголіча змясцілі на 10 дзён у Рэспубліканскую псіхіятрычную клініку для правядзення экспертызы. Эксперты-псіхіятры прызналі, што Руслан Зголіч пакутуе на часовае душэўнае растройства і патрабуе стацыянарнага лячэння. Зараз ён знаходзіцца на свабодзе.

У сваёй скарзе адвакат Зголіча піша пра шматлікія працэсуальныя парушэнні, дапушчаныя падчас вытворчасці па крымінальнай справе ў дачыненні да яго падабароннага. У скарзе таксама ўтрымліваецца просьба дапоўніць матэрыялы папярэдняга расследавання, і правесці вобшук ва ўсіх памяшканнях «Беларусьфільма» для ўстанаўлення месцазнаходжання выкрадзенага кінаматэрыялу, бо, паводле паказанняў аховы, ніхто, у тым ліку Зголіч, не выносіў ніякіх стужак за межы кінастудыі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Першы музычны замест ТВ-6

*Учора ўначы спыніў вяшчанне расійскі незалежны тэлеканал ТВ-6. У Беларусі замест яго на той жа кнопцы транслюецца «Першы музычны канал» – прадукт недзяржаўнай кампаніі «Дабрабачанне» і даволі няўдалая копія MTV.*




У 23.00 па беларускім часе ў панядзелак міністэрства друку Расіі перапыніла трансляцыю ТВ-6 на падставе таго, што ў кампаніі адкліканая ліцэнзія на вяшчанне. Да раніцы экран на 6-м метровым канале быў пусты. У той жа час тыя, хто прымаў ТВ-6 праз спадарожнік, маглі пабачыць на 6-й кнопцы чорны экран з надпісам «Нас выключылі з эфіру».

У 6.00 па беларускім часе замест ТВ-6 у Расіі пачалося вяшчанне спартовага каналу «НТВ-Плюс» – маўляў, каб не пуставаў экран.

У Беларусі замест гэтага пачалося дзённае вяшчанне «Першага музычнага каналу». Як мы ўжо паведамлялі, да панядзелка гэты канал ішоў у тэставым рэжыме – з 23.50 да 3 гадзіны ночы. Кіраўнікі каналу планавалі ў найбліжэйшы час пачаць дзённае вяшчанне на частаце ТВ-6, пакідаючы расійскія перадачы толькі на час з 17.00 да 23.50.

Падзеі ў Расіі змянілі планы «Дабрабачання». Цяпер на нашых экранах можна пабачыць адразу дзве «адзінкі» – ОРТ і «Першага музычнага каналу». Не забудземся яшчэ пра «Першы нацыянальны тэлеканал», які пакуль не ўжывае адзінку ў якасці свайго лагатыпу – пры адсутнасці іншых нацыянальных тэлеканалаў.

Тым часам у Расіі разгортваецца канфлікт вакол тых, на якой вяшчала ТВ-6. Міністр друку Расіі Міхаіл Лесін заявіў, што 27 сакавіка адбудзецца конкурс на правы вяшчання на 6-м канале. У ім, як кажа М.Лесін, могуць узяць удзел любыя тэлекампаніі – «канцэпцыя конкурсу абсалютна вольная».

Што да ўчорашняга перапынення вяшчання, то М.Лесін спаслаўся на пастанову прыстава Маскоўскага арбітражнага суду Фядорчанкі. Той патрабаваў пачаць неадкладную ліквідацыю ЗАТ МНВК, якая ажыццяўляла перадачу ТВ-6, прычым ліцэнзію на вяшчанне належала скасаваць яшчэ да ўтварэння ліквідацыйнай камісіі. Міністр друку паведаміў, што мусіў выканаць судовую пастанову.

Але спыненнем вяшчання непрыемнасці для ТВ-6 не скончыліся. Як паведаміла прэс-сакратар каналу Таццяна Блінова, у аўторак уначы ва ўсіх памяшканнях ТВ-6 у Астанкіна былі адключаныя святло, тэлефоны, а таксама выхад у інтэрнэт.

Генеральны дырэктар каналу Яўген Кісялёў заявіў у аўторак: «Улада сёння прадэманстравала, што ў яе адна задача – заткнуць нам рот».

Заходняя прэса піша, што закрыццё ТВ-6 сведчыць пра зацісканне свабоды прэсы ў Расіі, бо пасля «змены ўлады» на НТВ у красавіку мінулага году ТВ-6 заставаўся адзіным незалежным нацыянальным тэлеканалам, які дазваляў сабе непрыхаваную крытыку ўлады.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Ці спыніцца МТЗ?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Вадзім Біцан мяркуе, што паколькі МТЗ – дзяржаўнае прадпрыемства, то ў сённяшніх крытычных умовах дзяржава проста павінна дапамагчы заводу – інакш ёй давядзецца самой утрымліваць 19 000 беспрацоўных, а таксама ўсе аб'екты сацыяльна-бытавой сферы, якія дагэтуль фінансаваў МТЗ. Зноў-такі, у выніку спынення МТЗ бюджэт Беларусі не далічыцца шматмільярдных падаткаў. Пры гэтым прэс-сакратар нагадаў, што, па словах М.Лявонава, каля 40% рабочых заводу былі на прадпрыемстве «лішнімі» – яны атрымлівалі заробак, але тэхналагічны працэс не вымагаў іхняй прысутнасці. Тым не меней дырэктар заводу не мог скарацідь лішніх работнікаў, каб падвысіць эфектыўнасць працы – у свой час Аляксандр Лукашэнка адмыслова яго папярэдзіў, каб той пакінуў усіх працоўных на сваіх месцах.

Тым часам агенцтва БелаПАН паведаміла, што ў МТЗ пачалася цяжкасці і з выкананнем кантрактаў на пастаўку прадукцыі. У прыватнасці, у канцы мінулага тыдня Туркменістан адмовіўся пералічваць грошы па заключаным кантракце на пастаўку 1 000 трактараў. Туркменскі бок заявіў МТЗ, што пералічыць грошы толькі пасля таго, як трактары прыбудуць у краіну.

Як заявіў В.Біцан, адпускныя цэны МТЗ не заўсёды задавальняюць пакупнікоў. Яны разлічваюць набыць гэтыя трактары за бесцань – дзякуючы бартэру, узаемазалікам або разлікам за энерганосьбіты. Такім парадкам у Расіі і іншых суседніх краінах ужо апынулася вялікая колькасць трактароў, якія прадаюцца нашмат танней нават за сабекошт. «Лявонаў быў супраць бартэру, стратных цэнаў», – кажа прэс-сакратар заводу. Магчыма, якраз таму яго і «прыбралі», мяркуюць цяпер супрацоўнікі МТЗ.

Нагадаем, што дырэктара МТЗ затрымалі ў ноч на 8 студзеня – яго знялі з цягніка «Мінск–Масква», на якім генеральны дырэктар кіраваўся ў Расію для медычнай кансультацыі. Міхаіла Лявонава абвінавацілі ў тым, што ён спрабаваў пакінуць краіну па фальшывых дакументах (ягоны квіток на цягнік быў выпісаны на іншае імя). 17 студзеня Пракуратура Беларусі прад'явіла М.Лявонаву афіцыйнае абвінавачанне па трох артыкулах Крымінальнага кодэксу. У адпаведнасці з КК 1960 году, яго абвінавачваюць у «злоўжыванні ўладай або службовым становішчам, якое пацягнула цяжкія наступствы, нанясенні шкоды прадпрыемству ў асабліва буйным памеры». У адпаведнасці з Крымінальным кодэксам Беларусі ўзору 1999 году, дырэктара абвінавачваюць у «службовай халатнасці, якая нанесла шкоду прадпрыемству ў асабліва буйным памеры», а таксама ў «атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры за аказанне садзейнічання камерцыйнай фірме ў заключэнні заведама нявыгаднага кантракту з заводам». У якасці меры стрымання для яго абранае ўтрыманне за кратамі.

Як паведаміў адвакат М.Лявонава Мікалай Шаліма, ягоны кліент не прызнае сябе вінаватым па ніводным з гэтых абвінавачанняў. Яму не дазваляюць сустрэцца з жонкай.

Тым часам міністр прамысловасці Анатоль Харлап па ўзгадненні з Аляксандрам Лукашэнкам вызваліў М.Лявонава ад займанае пасады.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**СВОЙ ГОЛАС**

***— Ці добра, на вашу думку, тое, што беларускія ўлады адмовіліся аддаваць расійскаму піўзаводу «Балтыка» кантрольны пакет акцый АП «Крыніца», прапануючы 30 працэнтаў?***



**Наста, сакратарка:**
— Я думаю, што правільна. Навошта гэта нашу «Крыніцу» прадаваць расейцам? Я падтрымліваю гэтае рашэнне.



**Аляксей, музыка:**
— Я думаю, што калі ў дзяржавы няма грошай, то ўсё роўна трэба распрадаваць маёмасць, і таму хай бы лепш «Крыніцу» прадалі насамрэч. Хоць карысць ад гэтага была б нейкая...



**Дзмітры, друкар:**
— На маю думку і на мой густ – гэта слушна. Бо я асабіста «Балтыку» не п'ю, яна мне не падабаецца.



**Аляксандр, радыёінжынер з «Гарызонту»:**
— Што, не прадалі? Дарэмна. Я сам п'ю «Балтыку», і калі б варылі піва згодна з іх рэцэптурай, то было б лепш.



**Яўген, прыватны прадпрымальнік:**
— У Расіі хапае свайго піва, і яно ім прыносіць вялікі даход. А мы што, горшыя? Правільна, што не прадалі. У нас жа калісьці было лепш не самае лепшае піва ў СССР (я маю на ўвазе перш за ўсё «Лідскае»), а што стала цяпер?



**Дзмітры, юрыст:**
— Думаю, што абсалютна правільна. Не трэба, па-мойму, разбазарваць і распрадаваць дзяржаўную маёмасць.



**Уладзімір, выкладчык ВНУ:**
— Я раней чытаў, што ў заключэнні дамовы паміж «Крыніцай» і «Балтыкай» ёсць выгада і для нашай краіны, і для Расіі. Але, відаць, тут паўздзейнічалі нейкія «падводныя камяні», аб якіх мы з вамі не ведаем. Гаспадару лепш відаць, што там рабіць. Але ўвогуле, то лепш бы ўжо зрабілі ў Мінску філіял «Балтыкі», бо яна карыстаецца большай папулярнасцю.



**Алег, юрыст:**
— А хіба яе не прадалі? У мяне ёсць знаёмы, які гэтым крыху займаўся, дык вось ён казаў, што «Балтыка» спрабавала завезці сюды спісанае абсталяванне. І таму гэта правільна, што «Балтыцы» «Крыніцу» не аддалі. А так... піва два гады назад я піў беларускае, у тым ліку і «Крыніцу». Смачнае было. А цяпер п'ю расійскае, але ні ў якім разе не «Балтыку». А лепш за ўсё украінскае.



**Алена, студэнтка БДУ:**
— Ну я нават не ведаю. Калі б можна было выбіраць паміж «Крыніцай» і «Балтыкай», то я б піла расійскае. Калі б усё ж прадалі, то я б гэта падтрымала.



**Ігар Ільіч, пенсіянер:**
— Абсалютна няслушна. Я б з большым задавальненнем піў «Балтыку» танную.



**Анатоль Малашка, юрыст:**
— Гэта добра, што «Балтыцы» прадалі. Я люблю «Балтыку»... Што? Як не прадалі, а я ж чытаў!.. Ну, дурні, значыць, тыя, хто не прадаў!



**Мікалай, прыбіральшчык праспекта:**
— Мне абсалютна ўсё роўна, бо я піва не п'ю ў прынцыпе. Хай самі там разбіраюцца.



**Аляксандр, працуе ў БДУ:**
— Я ў прынцыпе згодны з гэтым рашэннем. «Балтыка» дарагое піва, я б лепш піў беларускае. Дый смак у яго лепшы.

**Апытанне праводзілі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК(фота).**

# Адзіны рубель і непрадказальныя наступствы

*Любое рашэнне беларускіх уладаў, тым больш такое буйное, як будучае аб'яднанне грашовых сістэмаў, выклікае супрацьлеглыя думкі. У расколатым грамадстве інакш і быць не можа.*

Не хачу закранаць набалелае тэмы аб страце дзяржаўнага суверэнітэту. Пастараюся (наколькі гэта магчыма) аддзяліць палітыку ад эканомікі і паказаць чыста эканамічныя наступствы няроўнага шлюбу. А тое, што шлюб будзе няроўны – сумненняў няма. Разгледзім дзеля прыкладу ўзровень інфляцыі ў саюзных дзяржавах за мінулы год: у Расіі – 18,6%, у Беларусі – 46,1%. Пра што кажа такі высокі ўзровень інфляцыі? (А 46,1% за год – гэта шмат па любых мерках.) Найперш пра слабасць улады. Не дзівіцеся. Няхай пабудавана жорсткая вертыкаль, няхай апытанні фіксуюць сацыяльную стабільнасць, але высокая інфляцыя – гэта паўсюль і заўсёды вынік слабой дзяржаўнай улады. Чаму так? Ды проста ўлада няздатная, з аднаго боку, забяспечыць даходную частку бюджэту, а з другога – мусіць няспынна саступаць усялякім лабістам пры планаванні выдаткаў.

Існуе мноства спосабаў пакрыцця бюджэтнага дэфіцыту. Англія ў 16 стагоддзі выкарыстоўвала таленты віцэ-адмірала Яе вялікасці Фрэнсіса Дрэйка дзеля марскога разбою. Украіна ўжо ў нашы дні рабавала на вялікай дарозе, дакладней – на вялікай трубе, расійскі «Газпрам». Беларуская дзяржава проста ўключыла друкарскі станок. Метад універсальны, а галоўнае – не прыводзіць да канфліктаў з суседзямі. Так рабілі яшчэ антычныя ўладары.



Фота IREX/ProMedia

Але чаму ўлада не можа збіраць гэтульkі даходаў, каб хапіла дзеля яе стабільнасці? Прычыны ў розных краінах і ў розны час бываюць разнастайныя і часам супрацьлеглыя. Для некага гэта рост цэнаў на нафту, а для некага іх падзенне. Нехта мусіць рэзка павялічыць выдаткі на абарону ў адказ на знешнюю пагрозу, а нехта, наадварот, сабраўся «ісці на вы». Але беларускі бюджэтны дэфіцыт мае інакшую прыроду. Па-першае, ён выкліканы толькі ўнутранымі прычынамі, а па-другое, носіць, як цяпер кажуць, сістэмны характар. Яго спараджае сама беларуская эканамічная мадэль – «рынкавы сацыялізм». Сёння ўзровень інфляцыі ў краіне не залежыць ад прафесіяналізму чальцоў кіраўнічае каманды. Не мае ніякага значэння, хто ўзначальвае міністэрства фінансаў і Нацыянальны банк. Калі колькасць нерэнтабельных прадпрыемстваў пагрозліва нарастае, то аказваецца, што няма з каго збіраць падаткі.

Што будзе, калі грашовыя сістэмы Беларусі і Расіі ў найбліжэйшы час аб'яднаюцца? Тут магчымыя варыянты, але найбольш верагодны з іх – аргенцінскі. Не, Аргенціна не аб'ядноўвала сваёй валюты з амерыканскай пад кіраўніцтвам Федэральнай рэзервовай сістэмы ЗША. Яна проста жорстка прывязала песа да даляра. Заўважым, зрабіла гэта выключна добраахвотна. Але эфектыўнасць аргенцінскай эканомікі значна ніжэйшая за амерыканскую. Тут важная якраз эфектыўнасць, а не памер эканомікі. Жорсткая фінансавая палітыка паступова прывяла да ўздаражэння аргенцінскага экспарту і ў выніку – да яго скарачэння. Упарта трымаючыся за сваю першапачатковую «прывязанасць» (1 песа – 1 даляр), урад пачаў пакрываць бюджэтны дэфіцыт за кошт знешніх пазыкаў і ўмудрыўся за нядоўгі час залезці ў пазыкі на 132 млрд. даляраў. Абслугоўванне такога знешняга доўгу запатрабавала да 40% дзяржаўнага бюджэту, і аўтары «аргенцінскага цуду» не знайшлі іншага выйсця, як залезці ў кішэні суайчыннікаў. Далейшае мы мелі магчымасць назіраць праз тэлевізар.

А якія тэлевізійныя сюжэты падорыць нам будучы адзіны рубель? Тут усё залежыць ад таго, якім чынам беларускі ўрад будзе пакрываць бюджэтны дэфіцыт. Якую частку «пакрыцця» пагодзіцца ўзяць на сябе народ, а якую Расія, і на якіх умовах. Але нешта рабіць абавязкова давядзецца: нашу бедную нявесту багаты расійскі жаніх карміць не збіраецца. Нявеста на гасразліку хоць і не ў духу славянскіх традыцыяў, але ў міждзяржаўных стасунках – гэта рэч звычайная.

Што зробіць улада, пазбыўшыся любімае цацкі – друкарскага станка, ці прыступіць яна да рэальных рэформаў? Нават калі рэформы праводзіць энергічна і пісьменна, то вынікі з'явяцца не раней як праз 2–3 гады. Але хто будзе праводзіць у нас такія рэформы? Уключыце тэлевізар, паглядзіце на гэтыя твары. Вы верыце ў тое, што яны могуць дзейнічаць энергічна і пісьменна?

Галоўным вынікам уводу адзінага рубля стане рост нестабільнасці як у грамадстве, так і ўва ўладзе. Іншымі словамі, мы атрымаем вынік, адваротны чаканаму ўладамі. Добра гэта ці дрэнна? Калі вы верыце, што пры пэўных абставінах з Лукашэнкам яшчэ можна дайсці да цывілізаванага жыцця, дэстабілізацыя вам непатрэбная. Калі не, то трэба ўсвядоміць – плаўнага бязбольнага пераходу ад «рынкавага сацыялізму» з чалавечым тварам Лукашэнкі да нармальнага заходняга капіталізму не атрымаецца. Рэжым можа захавацца толькі ўва ўмовах адсутнасці зменаў. Любыя змены будуць яго разгойдваць, і тут няважна, з чыёй ініцыятывы яны адбудуцца. Уладу Гарбачова развалілі рэформы Гарбачова. Але калі «працэс пойдзе», не след цешыць сябе ілюзіямі, быццам ён пойдзе канечне ад горшага (для нас з вамі) да лепшага. Калі «ўлада валяецца ў брудзе», яе абавязкова нехта падніме. Адзін раз мы гэта ўжо назіралі. Калі чарговым разам будзем толькі назіраць, то яе зноў падніме хтонебудзь не той.

**Сяргей НІКАЛЮК**

# Беспрацоўныя не спадзяюцца на дапамогу дзяржавы

*104 тысячы, альбо 2,3% працаздольнага насельніцтва Беларусі — такая афіцыйная статыстыка беспрацоўя ў нашай краіне на першыя дні 2002 году. Гэта невялікі паказчык, бо нядаўні сацыяльны выбух у Аргенціне справакавала незанятасць у вытворчасці 20% эканамічна актыўных жыхароў. Удвая менш беспрацоўных у свой час было ў Польшчы, калі там распачалася палітычная і эканамічная перабудова.*

Беларусь у гэтым сэнсе дзяржава «стабільная», аднак афіцыйная статыстыка не адлюстроўвае рэальнага становішча на рынку працы краіны. Неэфектыўныя пошукі працоўных месцаў, неадпаведнасць прапановаў патрабаванням, нізкія выплаты па беспрацоўі, якія складаюць два мінімальныя заробкі, – усё гэта робіць малапрывабнай афіцыйную рэгістрацыю ў аддзелах занятасці насельніцтва.

У гэтым давялося пераканацца, наведаўшы адзін з аддзелаў занятасці Мінску ў Кастрычніцкім раёне. 52-гадовы інжынер Васіль Пятровіч беспрацоўны два гады, ён прыходзіць сюды, толькі каб пацікавіцца новымі паведамленнямі пра вакансіі. Ён кажа: «На біржы не зарэгістраваны. Быў, а пасля адмовіўся. Пустая гэта справа». Кіроўца-кранаўшчык Уладзімір і ягоны сябар Мікалай беспрацоўныя толькі месяц, але таксама пераканаыя, што найлепшы метад працаўладкавання — самастойны пошук працы. Былы інжынер Канстанцін Іванавіч не працуе з пачатку году. У аддзел занятасці прыйшоў упершыню, але больш з цікаўнасці, а не спадзеючыся на канкрэтную дапамогу.

Толькі летась і толькі з дзяржаўных прадпрыемстваў Беларусі звольнілі 648 тысяч чалавек, а наноў працаўладкаваліся на 38 тысяч менш. Паводле ж афіцыйнай статыстыкі, колькасць беспрацоўных летась знізілася на некалькі тысяч чалавек.

На практыцы гэта азначае, што як найменш 38 тысяч нашых суайчыннікаў папоўнілі шэрагі арміі схаванага беспрацоўя. Прадстаўнікі ўладных структураў усведамляюць, што гэтая лічба штогоду большае, але паўплываць на працэс не могуць. Намесніца аддзелу занятасці Кастрычніцкага раёну Мінску Вольга Ярмошына кажа: «Колькасць зваротаў у службу занятасці год ад году расце. Беспрацоўе сярод моладзі таксама ўзрастае. Колькасць працоўных вакансіяў не знізілася, але хоць і гаворыцца, што ў вытворчасці заробак павінен быць сто даляраў, напраўду гэтага няма. Працоўныя вакансіі на дзяржаўных прадпрыемствах нізкааплатныя. Таму падабраць чалавеку працу ў адпаведнасці з ягонымі жаданнямі і патрабаваннямі сённяшняга жыцця вельмі складана. Толькі рэгістрацыяй нельга паказаць рэальную карціну беспрацоўя. Калі б усе людзі, якія маюць патрэбу ў працаўладкаванні, праходзілі праз службу занятасці, то гэтая лічба была б вышэйшая — я не ведаю, у колькі разоў».

Занятасць насельніцтва пабеларуску — гэта яшчэ і трохдзённыя працоўныя тыдні, і адпачынкі за ўласны кошт, і «раздзмутасць» адміністрацыйных апаратаў.

104 тысячы афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных — гэта людзі, не здольныя трываць такую «стабільнасць». Але і самастойна знайсці сабе працу яны ўжо страцілі надзею.

**Галіна АБАКУНЧЫК,**
**Радыё «Свабода»**

# Узрасла запазычанасць канцэрну «Белэнерга»

У два разы – з 317 да 634,2 млрд. рублёў — узрасла па выніках 2001 году запазычанасць суб'ектаў гаспадарання Беларусі прадпрыемствам канцэрна «Белэнерга» за спажытую электрычную і цеплавую энергію. У даляравым эквіваленце (у пераліку па афіцыйным курсе) запазычанасць павялічылася на 49,4 працэнта — з 268,6 да 401,4 млн. даляраў ЗША.

Паводле інфармацыі, атрыманай БелаПАНам у прэс-службе канцэрна «Белэнерга», у 2001 годзе арганізацыі канцэрна адпусцілі спажыўцам цеплавой і электрычнай энергіі на суму 2 трлн. 113,5 млрд. рублёў. Узровень аплаты склаў 85 працэнтаў — 1 трлн. 796,3 млрд. (у 2000 годзе спажыўцы аплацілі 79,3 працэнта спажытай энергіі). У грашовай форме аплата склала 639,8 млрд. рублёў, або 35,6 працэнта ад агульнай сумы аплаты (у 2000 годзе ўзровень аплаты грашыма быў вышэйшы на 9,1 працэнта).

Лепш за іншых за энергію расплачваліся ў Гомельскай і Мінскай абласцях (узровень аплаты — 86,7 і 86,4 працэнта), горш за ўсіх – у Гродзенскай і Магілёўскай (81,5 і 81,9 працэнта). Лідэры па аплаце ў грашовай форме — Брэсцкая і Мінская вобласці (44,5 і 43,9 працэнта), аўтсайдэры — Магілёўская і Гомельская (26,2 і 28,6 працэнта).

Як адзначаюць у прэс-службе канцэрна, па-ранейшаму найбольшую долю складаюць даўгі сельскай гаспадаркі — 58 працэнтаў. Да 1 студзеня запазычанасць прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у сістэму міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, дасягнула 367,9 млрд. рублёў, пры гэтым запазычанасць калгасаў і саўгасаў складае 313,3 млрд. рублёў (85,2 працэнта ад агульнай сумы). У 2001 годзе плацяжы прадпрыемстваў мінсельгасхарчу за спажытую энергію склалі 39,9 працэнта, у тым ліку калгасаў і саўгасаў — 12,3 працэнта.

Узровень аплаты прадпрыемствамі і арганізацыямі міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі склаў 76,6 працэнта (у тым ліку ў грашовай форме — 35,7 працэнта). Запазычанасць суб'ектаў гаспадарання гэтага міністэрства павялічылася за год на 54,3 млрд. рублёў (у 2,8 раза) і на 1 студзеня склала 84 млрд. рублёў (13,2 працэнта ад сумы запазычанасці ўсіх спажыўцоў краіны). Даўгі бюджэтных арганізацый узраслі за год на 28,7 млрд. рублёў (у 2,9 раза) — да 44,1 млрд.

У 2001 годзе арганізацыі канцэрна «Белэнерга» за несвоечасовую аплату электрычнай і цеплавой энергіі ўвялі 39 241 абмежаванне водпуску энергіі спажыўцам (на 13 335 абмежаванняў, ці ў 1,5 раза, больш, чым у 2000 годзе) і 7 703 разы адключалі іх ад сетак энергазабеспячэння (на 4 604 адключэнні, ці ў 2,5 раза, больш, чым у 2000 годзе).

Паводле інфармацыі прэс-службы канцэрна, у сувязі з нездавальняючай аплатай паставак энергіі арганізацыям «Белэнерга» дадзена ўказанне «спыніць водпуск электраэнергіі, якая не аплачваецца». У першую чаргу гэта закранула прадпрыемствы Гродзенскай вобласці, якія горш за іншых плацяць за спажытую энергію.

**Дзмітрый УЛАСАЎ,**
**БелаПАН**

ЭКСПРЭС

# Эканамічныя нататкі

## Сцеражыся! Рэальны попыт на грошы!

Пра гэткі накірунак грашова-крэдытнай палітыкі гаворыцца ў «новай» праграме, распрацаванай урадам нашай краіны дзеля «дасягнення ў 2002 годзе абмежавання росту коштаў і памяншэння афіцыйнага абменнага курсу беларускага рубля ва ўмовах планавага росту грашовай прапановы ў нацыянальнай валюце». Памер гэтага попыту запланаваны ў 1,22-1,55 раза. Гэтыя звесткі не абяцаюць шматпакутнаму беларусу нічога добрага, наадварот – смурод ад таго дакументу ўжо чуваць са старонак перыядычных выданняў: узяць хаця б уведзенае Нацбанкам з 10 студзеня 60-рублёвае абмежаванне розніцы паміж дзяржаўным і камерцыйным валютнымі курсамі. Іншымі словамі: бывай, свабодная канкурэнцыя – рухавік рыначнай эканомікі. «Нядобразычлівы» настрой уладаў пацвярджаецца звыклым ужо колькасным падыходам да якасных праблем – у праграме аж 50 мерапрыемстваў, большасць з якіх, нават тэарэтычна, – вада на вадзе, кшталту аптымізацыі грашовай эмісіі, развіцця новых рынкаў ды павелічэння ўдзельнай вагі банкаўскіх укладанняў у структуры рублёвай грашовай масы.

## Канцэрн «Белрэсурсы» робіць справу

Тавараразварот створаных канцэрнам «Белрэсурсы» гандлёвых дамоў, якія працуюць за мяжой, у 2001 годзе склаў 35 мільёнаў даляраў. Гэта больш як у 2 разы перавышае вынікі папярэдняга году. Найбольш шырокая тавараправодная сетка створаная ў расійскіх рэгіёнах. Праз яе рэалізуюцца будаўнічыя матэрыялы, мэбля, сельгасмашыны, спажывецкія тавары. Дзейнічаюць гандлёвыя дамы таксама ў Арменіі, Малдове, Кіргізіі, Літве – усяго каля 25 прадпрыемстваў. Дзеля больш эфектыўнай працы не так даўно было вырашана змяніць прадстаўнікоў з расійскага боку ў гандлёвых прадпрыемствах Валгаграду і Смаленску. У хуткім часе будзе арганізавана прадстаўніцтва ў Чыце.

## Кандыдатам на ўваход у ЕС прыйдзецца нясоладка

Прадстаўнік Еўракамісіі па пытаннях пашырэння Гюнтэр Верхойген паведаміў прадстаўнікам Венгрыі, Эстоніі, Кіпру, Латвіі, Літвы, Мальты, Польшчы, Славакіі і Чэшскай Рэспублікі, што падрыхтоўка да іх уступлення ў ЕС адпавядае графіку пашырэння, і ў 2004 годзе яны атрымаюць сяброўства ў ЕС. Балгарыі, Румыніі і яшчэ некаторым Еўракамісія адмовіла, тлумачачы гэта павольнымі тэмпамі мадэрнізацыі іх эканамічных сістэм, а таксама юрыдычнай і сацыяльнай сфераў. Некаторыя дробныя прэтэнзіі былі прад'яўлены і Польшчы, дзе рэформы ў апошні час замарудзіліся. Кандыдаты павінны адпавядаць тром агульным крытэрыям: мець стабільныя дэмакратычныя інстытуты, канкурэнтаздольную эканоміку і магчымасць выконваць абавязкі, якія накладае сяброўства ў ЕС. Што да меркавання грамадзян краін ЕС, згодна з апошнімі сацыялагічнымі апытаннямі, пашырэнне падтрымліваюць 45% выбаршчыкаў.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Пакупнікі-забойцы

*Звычайна ў першай палове студзеня дзелавая актыўнасць змяншаецца. Але, на жаль, у злачынцаў гэтай традыцыі няма. Па стане на 18 студзеня ў Мінску было зарэгістравана 10 забойстваў. З іх раскрыта 9.*

Увечары 4 студзеня аператыўна-следчая група прыбыла на месца здарэння – у кватэру на бульвары Шаўчэнкі. Там жывуць бацька і сын, вельмі неабыякавыя да спіртовых напояў, і таму іх жытло ператварылася амаль што ў прытон. У той дзень там гасцявалі сем чалавек. У самы разгар гулянкі ў дзверы пазванілі, гаспадар адчыніў. На парозе стаяла жанчына, а з ёю трое мужчын. Яны пачалі біць гаспадара, потым яго сына, але апошні здолеў выскачыць праз фортку, прайсці па карнізе і апынуцца ў бяспецы. А ў кватэры ішла бойка. Нечаканыя візіцёры пачалі высвятляць адносіны з гасцямі, прычапіліся да дзяўчыны. За яе заступіўся хлопец. Да яго падышоў адзін з бандытаў, пабіў, а потым прыставіў да лба пісталет. Хлопец уміг працверазеў. Сказаў бандыту: «Схавай пісталет, усё роўна не стрэліш». Але гр-н Д. націснуў на курок газава-шротавага пісталета. Шрот прабіў хлопцу лоб, ён страціў прытомнасць. Бандыты адразу ўцяклі з месца здарэння, а за імі і жанчына. Госці выклікалі «хуткую дапамогу», а лекары – міліцыю. У шпіталі паранены хлопец сканаў.

Што ж паслужыла прычынай забойства? Вось што распавёў начальнік крымінальнай міліцыі ўпраўлення ўнутраных справаў Цэнтральнага раёну Мінску Генадзь Захараў:

— Грамадзянка Б., 45 гадоў, нідзе не працуе, а жабруе каля царквы Аляксандра Неўскага. У яе ёсць сын, яму крыху больш за 20 гадоў, які таксама нідзе не працуе. Агульнае захапленне гэтай сямейкі – гарэлка. У іх двухпакаёвай кватэры за сістэматычную няплату адключаны газ, электрычнасць, вада. Каб іх прымусова не выселілі з жытла і каб яшчэ мець грошы на гарэлку, жанчына вырашыла прадаць кватэру, а ўзамен набыць пакой. На яе прапанову адгукнуліся дзве групы пакупнікоў. Першыя, як потым высветлілася, добрасумленныя людзі. А вось другая група, з трох маладых мужчын, вельмі зацікавілася гэтай кватэрай.

***— Вы мяркуеце, што гэта былі «чорныя маклеры»?***

— У нас не прынята меркаваць, мы аперуем фактамі. Грамадзянка Б., знаходзячыся на сваім «працоўным месцы», сказала, што мае намер прадаць кватэру. Гэта пачулі злачынцы. Некуды яны з'ехалі, потым вярнуліся і пачалі праганяць жабракоў. У гэты час пад'ехалі першыя пакупнікі, з якімі жанчына папярэдне дамовілася аб сустрэчы. Убачыўшы гэтыя разборкі, яны пасадзілі гр-ку Б. у сваю машыну і адвезлі да яе сястры, з якой збіраліся параіцца наконт пакупкі. Сястра была супраць здзелкі, яна вырашыла, што лепш дапамагчы небарацы заплаціць даўгі ды ўладкаваць яе на працу. Няўдалыя пакупнікі адвезлі жанчыну дадому. Там яе ўжо чакала тая несвятая тройца, якая ўчыніла сварку каля царквы. Яны і тут пачалі сварыцца, біць посуд, бо яна прапаноўвала кватэру іншым людзям. Настойвалі, каб гр-ка Б. неадкладна пачала афармляць дакументы на продаж кватэры. Але яна не спяшалася, мусіць, размова з сястрой так паўздзейнічала. Урэшце сказала, што трэба параіцца з сынам. «Дзе сын, паехалі яго шукаць», – лямантавалі пакупнікі-назолы. І жанчына разам з імі прыйшла ў кватэру на бульвары Шаўчэнкі.

***— Вашы супрацоўнікі ўжо знайшлі забойцу. Як гэта ўдалося, калі не сакрэт?***

— Ужо праз гадзіну пасля забойства большая частка супрацоўнікаў крымінальнага вышуку была паднята па трывозе і прыбыла на месца здарэння. Апытанне сведкаў, суседзяў, адпрацоўка жылога масіву – руцінная міліцэйская праца. Сын жанчыны быў такі п'яны, што нават не ведаў аб прыходзе маці і забойстве. Грамадзянка Б. расказала нам, што ў той дзень адзін з злачынцаў, Гоша, хрысціўся. Святар дазволіў паглядзець адмысловую кнігу запісаў, і дзякуючы гэтаму мы здолелі вызначыць асобу аднаго злачынцы. Дарэчы, жанчыне ён назваў выдуманае імя. Грамадзянін Т. меў судзімасць і не так даўно выйшаў з месцаў зняволення. Ужо 6 студзеня мы затрымалі яго разам з сябрам. Менавіта сябра, грамадзянін Д., і страляў – гэта пацвердзілі сведкі. Апошняга злачынцу затрымалі 7 студзеня.

***— Гэта ж быў святочны дзень, хіба хто, акрамя дзяжурнай групы, працаваў?***

— Ведаеце, не чакаў ад вас такога наіўнага пытання. Калі здараюцца забойствы ці іншыя цяжкія злачынствы супраць асобы, мы працуем па 16-18 гадзін, без усялякіх выхадных і святочных дзён.

***— Генадзь Анатолевіч, гэта забойства можна аднесці да выпадковага. А якіх забойстваў больш – спантанных ці спланаваных? І якія матывы тых і іншых забойстваў?***

— Спланаваных няшмат, калі мы ўжо гаворым пра забойствы ў колькасным вымярэнні. На жаль, кулак, нож, сякера, а то і пісталет робяцца ўсё больш звыклымі сродкамі высвятлення адносін паміж людзьмі. А матывы забойстваў звычайна носяць вельмі матэрыяльны характар.

***— Ці можаце вы назваць прыкладную статыстыку: колькі забойстваў адбываецца ў стане алкагольнага ап'янення, а колькі ўчыняюцца цвярозымі людзьмі?***

— Больш за палову – у стане алкагольнага ці наркатычнага ап'янення. І чым таннейшая гарэлка і бяднейшае насельніцтва, тым больш злачынстваў.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

## Анкетаванне сярод вязняў

Брэсцкае абласное аддзяленне ГА «Праваабаронча цэнтр «Вясна» правяло ананімнае анкетаванне аб умовах утрымання зняволеных сярод вязняў, якія сядзяць за адміністрацыйныя правапарушэнні, у ізалятары часовага ўтрымання (ІЧУ), што ў Ленінскім РАУС.

Як вынікае з атрыманых адказаў, арыштантаў кормяць 2 разы на дзень. На сняданак ім даюць кашу, 200 г хлеба і 150 мл гарбаты з цукрам, на абед – 200 мл супу (быў гарохавы), 150 г кашы і 200 г хлеба. Ежы часцей не хапае, асабліва вітаміны, часта ўсё халоднае. Ядуць з талерак і місак лыжкамі (відэльцаў не выдаюць).

З прадметаў асабістай гігіены ізалятар забяспечвае толькі гаспадарчым мылам. Што да ручнікоў, зубных шчотак, пасты, туалетнай паперы і споднай бялізны, дык іх магчыма атрымаць толькі ў перадачах ад сваякоў ці знаёмых, калі такія ёсць.

Палітычным можна памыцца і пагаліцца ў асобным памяшканні (душавой), куды выводзяць з канваірам. Лязо для галення выдаецца і пакідаецца непасрэдна ў душавой падчас галення. Звычайна там мыюцца дзяжурныя міліцыянты, непалітычных туды запрашаць не прынята.

Па патрэбе ходзяць на ўнітаз, які знаходзіцца ў самой камеры, нічым не загароджаны.

Спяць на голых дошках у вопратцы; цюфякоў, коўдраў, падушак і бялізны няма.

На прагулкі звычайна не выводзяць, але па патрабаванні вязня могуць вывесці на адну гадзіну.

За ўтрыманне ў ІЧУ плацяць самі зняволеныя – 1 000 (1 тыс.) у суткі пад роспіс.

Непалітычных з іх правамі ў ізалятары не азнаямляюць. У вязняў ёсць права мець газеты, кнігі, цыгарэты, запалкі, зубныя шчоткі з пастай, расчоску. Ім нельга мець гадзіннік, нож, асадку, каб пісаць.

У камеры панура, «як у труне», муры брудныя, павуціннe, мошкі, камера не дэзінфікуецца. У камеры ёсць хворыя на сухоты.

## Барацьба з карупцыяй вяртаецца

Яшчэ 18 студзеня Генеральны пракурор Беларусі Віктар Шэйман выдаў загад, якім вызваліў транспартнага пракурора Мікалая Каралюка ад займанае пасады і звольніў яго з органаў пракуратуры «за неналежнае выкананне службовых абавязкаў, учыненыя дзеянні, якія дыскрэдытуюць званне пракурорскага работніка». Вядома пра гэта стала толькі 21 студзеня на выніковай калегіі пракуратуры Беларусі, дзе генпракурор В.Шэйман патлумачыў такое кадравае рашэнне.

В.Шэйман сказаў, што падчас расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да былога начальніка Беларускай чыгункі Віктара Рахманько выяўлены шматлікія парушэнні заканадаўства, на якія транспартная пракуратура своечасова не адрэагавала. «Выяўленыя шматлікія факты карупцыі, выкарыстання службовага становішча ў карыслівых мэтах, разбазарванне жыллёвага фонду, закупкі гарача-змазачных матэрыялаў па завышаных цэнах, у выніку чаго дзяржаве нанесена шкода на дзесяткі мільёнаў даляраў. Усё гэта мусіла быць своечасова выяўлена і спынена транспартнай пракуратурай, чаго не было зроблена», — падкрэсліў генпракурор. Відавочна, што актуальнай ізноў становіцца барацьба з карупцыяй, на хвалі якой А.Лукашэнка і выбіўся ў прэзідэнты. Дакладней, пракурор Беларусі выказаўся пра недастатковасць намаганняў, якія робіцца, каб выкараніць гэтае зло. «Адна з прычынаў – адсутнасць сістэмнасці захадаў, немінучасці пакарання, а таксама недастатковае выкараненне ўмоваў, якія параджаюць такія віды злачынстваў». Кіраўнік дзяржавы даручыў пракуратуры рэспублікі разам з іншымі зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі распрацаваць дзяржаўную праграму па ўзмацненні барацьбы з карупцыяй», — заявіў Віктар Шэйман.

Махавік барацьбы з карупцыяй набірае абароты, у той час як 37% усіх зафіксаваных летась злачынстваў засталіся нераскрытымі. Віктар Шэйман выказаў сваё незадавальненне падобным станам рэчаў, які, на ягоную думку, тлумачыцца недастатковым узроўнем працы следчых пракуратуры і міліцыі. Больш дэталёвую ацэнку сваёй дзейнасці за мінулы год праваахоўныя органы атрымаюць у лютым на нарадзе ў Аляксандра Лукашэнкі.

**Рыгор БУЯН**




# Цыгарэты пад сядушкамі

*З 1 студзеня польскі бок увёў абмежаванні на ўвоз у краіну моцных напояў і цыгарэт. Летась дазвалялася мець пры сабе блок цыгарэт і літр спіртнога. Апроч таго, спакойна можна было правезці гарэлачныя вырабы, набытыя у фры-шопе. Сёння – толькі пачак цыгарэт і толькі паўлітра гарэлкі.*

Гродзенцы прагназавалі, што заробкі ў пасажыраў-«спіртавозаў» адразу скончацца. Аднак гэта не спраўдзілася. Паміж Кузніцай Беластоцкай і Гроднам штодзень курсуюць чатыры польскія электрычкі. Па звестках нашай мытнай службы, яшчэ ўвосень цягнікі хадзілі напаўпустыя. Пасажыраў збіралася, як правіла, чалавек 100 максімум. Калі з 20 лістапада палякі закрылі памежны аўтамабільны пераход «Кузніца—Брузгі», колькасць людзей у цягніках павялічылася да 150-200. Перад Калядамі электрычкі пачалі цалкам запаўняцца, лічба пасажыраў дасягала 400 чалавек.

Ясна, што пасля Новага году іх колькасць рэзка скарацілася. Па-першае, былі святы. Па-другое, нямала «спіртавозаў» палічылі, што калі палякі па-сапраўднаму возьмуцца шукаць у вагонах кантрабанду, ездзіць не будзе сэнсу. Тым не менш, рух наладзіўся зноў, прычым у ранейшых памерах. На пачатку гэтага тыдня я падышоў да прыбыцця электрычкі з Кузніцы. Дзверы вагонаў расчыніліся, і на пероне апынуліся прыблізна 200-220 пасажыраў. Толькі адзінкі мелі салідныя чамаданы-кейсы, г.зн. ехалі здалёк. Астатнія выйшлі з добра вядомымі «матрацнымі» торбамі, у якіх перавозіцца тавар.

Нашы «спіртавозы» самі здзівіліся, што польскія мытнікі ў цягніках не вельмі стараюцца выкрываць кантрабанду. Не, бываюць, вядома, розныя выпадкі. Напрыклад, жанчыны расказалі мне на вакзале, што паляк кагосьці прымусіў выліць з літровай бутэлькі палову гарэлкі. Але ўсё гэта — збольшага ў межах звычайнай праверкі. Такое здараецца і раней. Кантрабанда хаваецца ў абшыўцы вагонных сценаў, у сядушках. Мытнікі, якія працуюць на чыгунцы гадамі, усе гэтыя кантрабандысцкія хітрыкі выдатна ведаюць. Як і самі «спіртавозы», якія ездзяць у Кузніцу часцяком кожны дзень. Аднак палякі, як ні дзіўна, не лютуюць. Хоць новыя і вельмі моцныя абмежаванні на ўвоз падакцызных тавараў павінны былі б цалкам развязаць ім рукі.

Сярод нашых «спіртавозаў» ходзяць розныя чуткі наконт гэтага. Адны папросту, не задумваючыся над прычынамі, лічаць, што палякі скасуюць абмежаванні. Іншым здаецца, што цягнікі сталі на пачатку году стратнымі, а гэта, маўляў, нявыгада палякам. Ёсць і такое меркаванне: жыхары Кузніцы і наваколля амаль цалкам страцілі свае заробкі пасля таго, як памежны аўтапераход зачыніўся, і то надоўга — да канца сёлетняга году. А паколькі польскія мытнікі — пераважна жыхары самой Кузніцы, дык яны, маўляў, робяць так, каб землякі мелі па-ранейшаму хоць які заробак. Хто ведае...

Я размаўляў і з нашымі мытнікамі. Яны па-рознаму ацэньваюць польскія абмежаванні і нечакана слабы кантроль на чыгунцы. Адны згаджаюцца, што нашы людзі наносілі немалыя страты польскаму бюджэту. Штогод з Беларусі ў Польшчу прывозіцца прыблізна 1 мільён беларусаў. Кожны меў права правезці 1 літр гарэлкі. У польскіх крамах літр каштуе 10 даляраў. Значыцца, страты на 10 мільёнаў атрымліваліся. Хоць у іхніх крамах і гуртоўнях беларусы пакідаюць значна больш грошай, вывозячы ў вялікай колькасці і харчы, і будматэрыялы, і што заўгодна. Але са статыстыкай у палякаў — усё о'кей. Ім няцяжка супаставіць выгады і нявыгады ад беларускіх падарожных. Чаго больш: стратаў ці прыбыткаў? Таму, маўляў, палякі не вельмі пакуль ціснуць на нашых – каб паглядзець, як будуць дзейнічаць новыя абмежаванні. Тым больш, сапраўды істотныя страты наносяць іншыя — спіртовыя «гангі», якія ўвозяць у Польшчу спірт цэлымі трэйлерамі і разліваюць яго на падпольных броварах.

Увогуле, што да нашых «спіртавозаў», дык палякаў значна болей турбавалі маштабы праносу спіртнога, прычым цалкам легальнага, праз сваю паўднёвую мяжу. Гэтак званыя «мурашы» — жыхары памежных мясцовасцяў – масава дастаўлялі на польскую тэрыторыю танныя моцныя напоі з суседніх Славакіі і Чэхіі. Гэтым займаліся і славакі з чэхамі, і самі палякі. Пераходы там пешаходныя, за дзень можна хоць сто разоў прайсці праз КПП. Хутка і танна, бо не трэба ніякага ваўчара. Гэта зусім не тое, што суткамі чакаць у машыне чаргі, каб праехаць праз мяжу, як у нас было нядаўна ў Бераставіцы альбо ў тых жа Брузгах.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Указ, які мае адолець карупцыю

Асноўная задача ўказу прэзідэнта №40 «Аб дадатковых мерах па рэгуляванні эканамічных адносінаў» ад 16 студзеня 2002 году – гэта ліквідацыя прабелаў у заканадаўстве, заявіла падчас «круглага стала» ў Нацыянальным прэс-цэнтры начальнік упраўлення падрыхтоўкі і экспертызы праектаў заканадаўчых актаў Камітэту дзяржаўнага кантролю Беларусі Наталля Давыдко.

Які будзе непасрэдна эканамічны эфект ад прымянення ўказу №40, Давыдко сказаць не змагла. Не змог спрагназаваць развіццё сітуацыі і кансультант юрыдычнага ўпраўлення міністэрства эканомікі Валерый Захараў, які браў удзел у «круглым стале». «Магчымыя наступствы ўплыву норм указу на эканамічныя адносіны пакуль яшчэ нельга ацаніць. Якімі будуць вынікі яго рэалізацыі, будзе бачна ў будучыні».

Пры распрацоўцы ўказу №40 было ўлічана, што памеры шэрагу штрафных санкцый прэзідэнцкага дэкрэту 1997 году былі завышаны і зараз гэта ліквідавана, паведаміла Давыдко. «Адзіная санкцыя, жорсткасць якой была ўзмоцнена, – гэта санкцыя за ажыццяўленне незаконных фінансавых аперацый, – сказала яна. – Камітэт дзяржаўнага кантролю лічыць, што фірмы-аднадзёнкі, чорны абарот наяўных грашовых сродкаў – не садзейнічаюць нармальнаму развіццю эканомікі. У сувязі з тым мы і замацавалі ва ўказе жорсткую санкцыю».

Яшчэ адна ўдзельніца «круглага стала», намесніца начальніка Галоўнага экспертна-прававога ўпраўлення КДК Алена Кунцэвіч заўважыла: «Сёння вельмі цяжка сказаць, як будзе прымяняцца ўказ на практыцы, але, я думаю, што мы старэемся прымяняць яго правільна. Пры вынясенні рашэнняў ацэньваюцца матэрыялы праверкі, і яны даюць падставу для службовай асобы, упаўнаважанай на прымяненне санкцый, вызначыць памер адказнасці». Таму, лічыць яна, суб'ектыўны фактар пры прыняцці рашэння будзе выключаны.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# Закладнікі Перона

*Палітычны і эканамічны крызіс, які ўжо некалькі месяцаў трывае ў Аргенціне, паспеў спарадзіць на постсавецкай прасторы досыць кплівыя каментары назіральнікаў.*



Натуральна, гледзячы тэлевізійныя кадры, на якіх аргенцінцы нішчаць тое, што яшчэ засталося ад іхнай эканомікі, а прэзідэнт уцякае на верталёце ў невядомым напрамку, многія не могуць схаваць задавальнення ад таго, што Расія не пайшла за аргенцінскім прыкладам. Можа, айчынныя гледачы вельмі здзівіліся б, даведаўшыся, што ў самой Аргенціне бясслаўны канец праўлення Фернанда дэ ла Руа параўноўваюць з крахам другога вядомага ліберальнага палітыка гэтай краіны – Рауля Альфансіна. Альфансін, гэтаксама як і дэ ла Руа, мусіў на фоне мяцяжу і рабункаў крамаў увесці ў краіне ў 1989 годзе стан аблогі і датэрмінова сысці ў адстаўку. Але ўсё гэта – знешняя канва падзеяў. Іх сутнасць шмат у чым звязаная з палітычнай гісторыяй Аргенціны, з тым, што ў развіцці гэтае краіны ідэалагічны складнік нязменна граў занадта вялікую ролю. Аргенціна ў гэтым сэнсе нашмат больш нагадвае колішні Савецкі Саюз.

Хуан Дамінга Перон, якога ў свеце ведаюць як мужа Эвіты Перон, гераіні мюзіклаў і кінафільмаў, патрапіў надаць папулізму жорстка акрэсленыя ідэалагічныя рамкі. Перон стаў творцам партыі, якую ад тых дат трывала звязваюць з ягоным імем. Хуан Перон стварыў унушальную прапагандысцкую машыну, уАргенціне з'явіўся цэлы шэраг перенісцкіх арганізацыяў – жаночых, моладзевых, прафсаюзных. Пры стварэнні свайго рэжыму Перон рабіў высновы з найноўшае палітычнае гісторыі свае краіны. Лібералы тут ужо пабывалі пры ўладзе – Грамадзянскі радыкальны саюз, які прыйшоў да ўлады ў 1916 годзе, адразу заняўся мадэрнізацыяй аргенцінскай эканомікі. Але Вялікая дэпрэсія 20–30-х гадоў змяніла сітуацыю. З 1930 году пачынаецца доўгі перыяд чаргавання ваенных хунтаў і цывільных адміністрацыяў, які скончыўся толькі ў 1989 годзе. Перон таксама быў адным з прадстаўнікоў ваеннае групоўкі, якая прыйшла да ўлады ў выніку перавароту 1943 году. Аднак яму ўдалося стварыць пад сябе магутную ідэалагічную плынь і дамагчыся свайго абрання на прэзідэнта Аргенціны. Праўда, ненадоўга. Ужо ў 1955 годзе вайскоўцы яго скінулі. І тым не менш, нягледзячы на звяржэнне Перона, ідэя карпаратыўнае дзяржавы, якую ён праводзіў – ідэя гарманічнага суіснавання розных слаёў грамадства, якое прыходзіць на змену дэмакратыі заходняга ўзору, — працягвала існаваць...

Перанізм уратаваўся зноўку. Ваенны рэжым аказаўся адным з самых драпежных і бессэнсоўных за ўсю гісторыю краіны. Генералы ваявалі з усімі нязгоднымі і зусім не збіраліся дзяліцца ўладаю. А калі пасля пэўнага перыяду адноснай эканамічнай стабільнасці аргенцінская эканоміка чарговым разам рухнула, дзеля ўратавання ваеннага ўраду быў абраны шлях «маленькай пераможнай вайны» за Фалклендскія астравы, якая скончылася паразаю аргенцінскіх генералаў.

Але перанісцтам не ўдалося вярнуцца да ўлады. Бальшыню выбаршчыкаў складалі людзі, якія яшчэ памяталі, як жорстка яны падмануліся ў сваіх спадзяваннях. Як і ў 1916 годзе, прыйшла ліберальная адміністрацыя: кіраўніком дзяржавы абралі Рауля Альфансіна. Аргенцінскае грамадства пачало шпарка і рашуча змяняцца, у краіне аднавілася дэмакратыя. Але, як ужо не раз здаралася з лібераламі ў мінулым, яны не далі рады эканоміцы. Пачатая Альфансінам праграма здабыла падтрымку Міжнароднага валютнага фонду і напачатку лічылася адной з наймацнейшых праграмаў па стабілізацыі Аргенціны. Праграма сапраўды стала прыносіць уражальныя вынікі, але яе чакаў лёс усіх аргенцінскіх стабілізацыйных планаў. Калі пачалі з'яўляцца першыя сур'ёзныя праблемы, аказалася, што ўлада не можа разлічваць на разуменне і судзейнічанне грамадства, выхаванага на папулісцкіх прынцыпах. Дый сама ўлада была занадта падобная да гэтага грамадства, што наўрад ці дазваляла ёй вытрымаць жорсткую лінію правядзення рэформаў. У выніку пачалося замяшанне, далей пайшлі адмовы ад асноўных момантаў стабілізацыйнага плану, – і ўрэшце выявілася, што грамадства не жадае цярпець наступствы рэформы і няздольнасць улады гэтыя рэформы праводзіць. Наступіў эканамічны і палітычны крах.

Між тым з моманту звяржэння апошняй перанісцкай адміністрацыі мінулася ўжо 13 гадоў – час дастатковы для таго, каб людзі забылі пра расчараванні і памяталі толькі пра легендарнага генерала і ягоную неперасягнутую Эвіту. Ці варта тлумачыць, што новым прэзідэнтам краіны робіцца пераніст – Карлас Менем.

І, праўда, што, на пачатковым этапе сваёй дзейнасці Менем прыклаў нямала намаганняў дзеля таго, каб эканоміка Аргенціны выйшла з-пад кантролю дзяржавы, паклікаў ува ўрад прафесара Дамінга Кавальё – чалавека, які даў дакладнае азначэнне аргенцінскай эканоміцы, назваўшы яе «сацыялізмам без плану і капіталізмам без рынкаў». Аргенціна рабілася адною з тых дзяржаваў свету, якія найбольш інтэнсіўна развіваліся, аналітыкі пісалі пра перараджэнне перанізму, пра тое, што Менему ўдалося скарыстаць папулісцкую ідэалогію дзеля пабудовы сучаснай дзяржавы і мабільнага развіцця эканомікі.



Але насамрэч перанізм застаўся самім сабою: эканамічныя намаганні Кавальё маглі даць доўгатэрміновы плён толькі ў тым выпадку, калі б аргенцінскае грамадства было гатова да сур'ёзных выпрабаванняў і адмовілася б ад утапічнай ідэі карпаратыўнае дзяржавы, а прэзідэнт Карлас Менем імкнуўся якраз да рэфармавання краіны, а не да захавання сваёй улады. Але для Менема, гэтаксама як і для многіх іншых ягоных папярэднікаў на пасадзе прэзідэнта Аргенціны – зрэшты, як для любога палітыка-папуліста, — захаванне ўлады было гарантыяй асабістае бяспекі і недатыкальнасці.

Рэжым быў карумпаваны; не толькі найбліжэйшае атачэнне прэзідэнта, але і сам ён былі замешаныя ў незаконныя здзелкі. Не выпадкова ўжо пасля адстаўкі супраць экс-прэзідэнта былі выстаўлены сур'ёзныя абвінавачанні ў прычыннасці да незаконнага гандлю зброяй, а сам ён апынуўся пад хатнім арыштам. Таму, калі першыя ж негатыўныя наступствы рэформаў Кавальё сталі відавочнымі, Менем паспяшаўся пазбавіцца ўплыву «айца эканамічнага цуду» і пайшоў насустрач працоўным. Вынікі не прымусілі сябе чакаць: сітуацыя ў эканоміцы пачала горшаць дзень пры дні, што зрабіла немагчымым абранне Менема на трэці тэрмін. Новым лідэрам краіны стаў кандыдат лібералаў, мэр Буэнас-Айрэсу Фернанда дэ ла Руа, вядомы сваёй беззаганнай рэпутацыяй. Тады цяжка было ўявіць, што ўсяго праз два гады тыя ж аргенцінцы будуць крычаць, якія яны шчаслівыя, што пазбавіліся зладзеяў дэ ла Руа і Кавальё... Зрэшты, новы прэзідэнт наўрад ці мог даць рады праблемам краіны.

Ягоная палітыка ніколі не была паслядоўнаю. За паўтара года былі выпрабаваны розныя сродкі, каб вывесці краіну з крызісу, але яны не далі плёну, і прэзідэнт звярнуўся па дапамогу да Кавальё, які ўзяўся праводзіць радыкальныя рэформы, не маючы за сабою падтрымкі ні прэзідэнта, ні грамадства: дэ ла Руа працягваў актыўна рыхтавацца да парламенцкіх выбараў, на якіх ягоная партыя мелася спаборнічаць з перанісцтамі. У выніку пераністы выйгралі выбары, што пазбавіла прэзідэнта і ягоны кабінет заканадаўчых рычагоў... Акрамя таго, пасля некалькіх гадоў эканамічнае сумятні і адсутнасці прадуманага плану дзеянняў ува ўрадаў Менема і дэ ла Руа рэцэпты Кавальё маглі або ажывіць эканоміку, якая канала, або прыспешыць калапс. Апошняе і адбылося.

Гэтая доўгая і смутная гісторыя вельмі павучальная. Яна даводзіць, прынамсі, тое, што для поспеху рэформаў недастаткова рашучай і кампетэнтнай улады, – патрабуецца яшчэ і адсутнасць ілюзіяў у грамадстве. Мужу і жонцы Перонам удалося, здаецца, назаўжды загіпнатызаваць аргенцінцаў і пераканаць іх, што дзяржава, у якой насельніцтва не нясе адказнасці за наступствы рэфармавання краіны, — магчымая, і толькі палітыкам, якія змагаюцца за пабудову такое дзяржавы, і мусіць належаць улада. Слушнасці гэтае тэзы не ўдалося давесці ні самому Перону, ні Менему, ні ваенным хунтам, ні пагатоў прэзідэнтам-лібералам. І тым не менш аргенцінцы надалей вераць у гэтую ідэю, бо, па вялікім рахунку, верылі ў яе і да з'яўлення Перона. Раз на дзесяць гадоў аргенцінцы дзеля гэтага міфу бурацць крамы і выганяюць прэзідэнтаў. Але запраграмаванасць аргенцінскае гісторыі – гэта не прыватны выпадак, не адзінкавы феномен. Гэта проста яшчэ адзін важкі доказ, які сведчыць пра непарыўную ўзаемасувязь інтарэсаў улады і грамадства, важнасці рэфармавання краіны. Рэформы ніколі не могуць быць стопрацэнтова паспяховымі, таму без адказнага грамадства яны ўрэшце асуджаныя на паразу, а краіны – на палітычны крызіс і эканамічны крах. І гэта тычыцца зусім не толькі Аргенціны...

**Віталь ПОРТНІКАЎ**

# Афганістану абяцаюць мільярды

У Токіо адчынілася міжнародная канферэнцыя па арганізацыі дапамогі ў адбудове Афганістану. Сваіх прадстаўнікоў сюды накіравалі каля 60 дзяржаваў і 20 міжнародных арганізацыяў.

Эксперты ААН падкрэсліваюць, перадае *РИА «Новости»*, што міжнародная супольнасць мусіць перадусім заняцца якраз тэрміноваю дапамогай Афганістану, бо гаворка ідзе аб выжыванні кабульскага часовага ўраду, які застаўся практычна без сродкаў да існавання.

Паводле ацэнак ААН, у аднаўленне Афганістану на працягу апошніх дзесяці гадоў трэба будзе ўкласці яшчэ каля 15 мільярдаў даляраў. Японія, вядучы на сёння дабрадзей Афганістану, збіраецца асігнаваць на дапамогу Кабулу ў рамках міжнароднай праграмы прыкладна 500 мільёнаў даляраў. Дарэчы, на мінулым тыдні Токіо ўжо абвясціў аб накіраванні Кабулу асобна ад гэтага пакету амаль 50 млн. даляраў у якасці тэрміновае дапамогі. Па словах кіраўніка ўраду, сродкі прызначаюцца перадусім на размініраванне афганскае тэрыторыі, уладкаванне ўцекачоў, адукацыю, ахову здароўя і абарону правоў жанчын.



Дзяржсакратар ЗША Колін Паўэл заявіў пра тое, што ЗША выдзяляюць на аднаўленне Афганістану 296 млн. даляраў, палова з якіх ужо ўлічана ў бюджэце краіны. Больш за 120 мільёнаў, заявіў Паўэл, пойдзе на харчовае забеспячэнне, 72 млн. – выдзяляюцца ў рамках міжнароднага супрацоўніцтва па ліквідацыі наступстваў засухі і іншых стыхійных няшчасцяў, на патрэбы перасяленцаў пералічваецца звыш 52 мільёнаў.

Еўрапейскі Саюз таксама абвясціў суму выдаткаў на 2002 г., якая складае прыблізна 550 млн. еўра, заявіў Мігель Надаль, генеральны сакратар па замежных справах Іспаніі, якая старшынюе ў ЕС.

Вядома таксама, што Германія мае намер выдзеліць 362 млн. на працягу 4 гадоў. Як чакаецца, Вялікабрытанія прадставіць фінансавыя сродкі для новага афганскага ўраду ў памеры 200 млн. фунтаў стэрлінгаў на працягу 5 гадоў.

Сусветны банк плануе накіраваць на патрэбы Афганістану 500 млн. даляраў, заявіў старшыня СБ Джэймс Вулфенсан. Ён прапануе акцыянерам банку пералічыць гэтыя сродкі на працягу паўтара года, а да таго ж забяспечыць афганцаў тэрміновымі грантамі на суму 50–70 млн. Эканамічную дапамогу новаму ўраду Афганістану ў памеры 100 млн. даляраў збіраецца прадаставіць Кітай.

# Небяспечная залежнасць Польшчы

Ад вынікаў візіту Пуціна можа ў будучыні залежаць лёс краіны. Неабходна, каб грамадская думка добра разумела, што за стаўка ў гэтай гульні. Гаворка тут не толькі пра палепшанне стасункаў і ўзаемнае збліжэнне паміж Расіяй і Польшчай па прыкладзе польска-нямецкага прымірэння. Гэтую тэзу падтрымлівае большая частка грамадства.

Не менш важна, што Польшча апынаецца ўва ўсё больш небяспечнай залежнасці ад стратэгічных паставак прыроднага газу з Расіі. Квазіманапалістычнае становішча Расіі можа ў будучыні стаць прыладаю палітычнага і эканамічнага ціску, а перш за ўсё – можа дазволіць дыктаваць умовы паставак і заніжаныя цэны паслугаў польскіх кантрагентаў. На жаль, гэта ўжо адбываецца. У выніку няздарных пагадненняў і кантрактаў, заключаных ранейшымі ўрадамі з удзелам Саюзу дэмакратычных левых сіл, вымалёўваецца небяспека перахопу Расіяй поўнага кантролю над газаправодам, праз які прыродны газ паступае цераз Польшчу ў Германію і Заходнюю Еўропу. Польшча можа страціць суверэнныя правы і вялізныя даходы не толькі ад транзіту цераз яе тэрыторыю прыроднага газу, але і ад тэлекамунікацыйнага транзіту, які цяпер бурна развіваецца. Бо расіяне, не пытаючыся згоды Польшчы, збіраюцца праклaсці ўздоўж польскага адрэзку ямальскага газаправоду оптавалаконны кабель, які злучыць Маскву з Берлінам. Гэта шырокая тэлекамунікацыйная аўтастрада, якая праляжа цераз Польшчу. Яна можа стаць крыніцаю вялізных даходаў.

Бясспрэчны жыццёвы інтэрас Польшчы палягае ў тым, каб крыніцы забеспячэння польскай эканомікі былі самыя розныя. У нашым выпадку гаворка ідзе пра пагадненне з Даніяй і Нарвегіяй аб пастаўках газу, а таксама пра карэкцыю ранейшых пагадненняў з расіянамі, неадпаведных польскім інтарэсам. Гэтыя пагадненні пагражаюць банкруцтвам структур, якія эксплуатуюць польскі адрэзак газаправоду, і пераходам іх пад поўны кантроль расійскіх партнёраў. Польшча не павінна выпусціць з рук выгады ад транзіту цераз яе тэрыторыю.

Здатнасць цяперашняга ўраду будзе залежаць ад яго рашучае волі абараніць суверэнныя правы рэспублікі і яе жыццёва важных эканамічных інтарэсаў.

**Rzeczpospolita, Польшча**

# Калі мы пераможам у вайне супраць раку?

**Уолтэр ЭКХАРТ,**
**прафесар малекулярнай і клеткавай біялогіі, дырэктар ракавага цэнтру пры Солкаўскім інстытуце біялагічных даследаванняў, Каліфорнія**

*Рак паражае многія органы і тканкі цела. І хоць розныя віды раку адрозніваюцца адзін ад другога сімптомамі і паводзінамі, усе яны маюць адну супольную прычыну ўзнікнення: збой у генным кодзе. Ген – гэта адзінка, якая нясе ў сабе закадаваную хімічную інфармацыю, якая вызначае структуру і функцыянаванне нашага арганізму. Усе клеткі нашага арганізму маюць аднолькавы набор генаў, па палове ад кожнага з бацькоў. Адрозненні паміж відамі клетак вызначаюцца камбінацыяй актыўных генаў у кожнай асобнай клетцы.*

Парушэнне генаў можа быць выклікана экалагічнымі фактарамі, такімі, як уздзеянне радыяцыі або хімікатаў, а таксама зменамі ў абмене рэчываў. Чалавечы арганізм распрацаваў сістэму аднаўлення, якая падтрымлівае цэласнасць нашых генаў нават пры наяўнасці шкодных фактараў. Аднак у некаторых выпадках парушаныя гены не аднаўляюцца. І калі такое парушэнне адбываецца ў ключавых генах, якія рэгулююць клеткавы рост, узнікае небяспека развіцця ракавага захворвання.

Клеткавы рост рэгулюецца балансам паміж генамі, якія стымулююць рост, і генамі, якія стрымліваюць яго. Гены, якія стымулююць клеткавы рост, называюцца *анкагенамі*, а якія яго стрымліваюць – *генамі-ўціскальнікамі пухліны*. Актывацыя анкагенаў або парушэнне функцыянавання генаў-уціскальнікаў пухліны можа прывесці да неабмежаванага росту колькасці клетак.

Актывацыя анкагенаў можа адбыцца ў выніку мутацыі (змены ў структуры гена) або павелічэння генаў (утварэнні вялікае колькасці копіяў гену). Гены-ўціскальнікі пухліны могуць быць выведзены са строю ў выніку мутацыі або самазнішчэння падчас дзялення клеткі.

Традыцыйна дыягназ раку ставіцца на аснове характэрнага выгляду ракавых клетак пры назіранні іх пад мікраскопам. Цяперашнім часам розныя віды раку ўсё больш і больш вызначаюцца паводле характэрных мадэляў геннай актыўнасці (своеасаблівага «малекулярнага аўтографу»). «Малекулярны аўтограф» можа выкарыстоўвацца дзеля дакладнейшай класіфікацыі раку, што вельмі палягчае лячэнне.

Навука выявіла дзесяткі анкагенаў і генаў-уціскальнікаў пухліны, сродкі для барацьбы з якімі яшчэ трэба распрацаваць. Апошнім пераканаўчым прыкладам стала стварэнне прэпарату, прызначанага для вылечвання малекулярных зменаў, уласцівых клеткам хранічнай міелагеннай лейкеміі. Гэты прэпарат становіць сабою альтэрнатыву перасадцы касцявога мозгу – раней адзінаму эфектыўнаму лячэнню.

Было выяўлена, што мутацыі ў пэўных генах выклікаюць спадчынныя формы раку грудзей і яечнікаў. Гэта дало магчымасць вызначыць, якія жанчыны належаць да групы павышанай рызыкі з-за спадчыннай прысутнасці гэтых генаў у іх арганізме. Трэба зазначыць, што спадчынныя формы раку грудзей і яечнікаў складаюць толькі малую долю ад агульнай колькасці захворванняў. Пільнае назіранне і хуткае лячэнне або прафілактычнае хірургічнае ўмяшанне могуць знізіць рызыку захворвання пры спадчынных формах раку.

Другія напрамкі ў барацьбе з ракам грунтуюцца на лепшым разуменні таго, як адбываецца рост пухліны. Пухліна патрабуе багатай дастаўкі крыві і стварае дзеля гэтага ўмовы, якія стымулююць рост крывяносных сасудаў (працэс, які называецца ангіягенэзам). Падчас клінічных даследаванняў новых лекавых сродкаў, прызначаных для ўціску ангіягенэзу пухліны, былі атрыманы шматабяцальныя вынікі.

Мяркуецца, што 10–15% ракавых захворванняў па ўсім свеце звязаныя з віруснымі інфекцыямі. Рак печані, які звязваецца з гепатытам, і рак шыйкі маткі, звязаны з віруснай інфекцыяй папіломы, — самыя яскравыя прыклады такога меркавання. Выкарыстанне вакцыны супраць гепатыту В скарачае працэнт захворвання ракам печані. Хуткія спецыяльныя дыягнастычныя тэсты на вірус папіломы ўжываюцца дадаткова да традыцыйных мазкоў Папанікалау, дапамагаючы вызначыць, якія жанчыны маюць схільнасць да захворвання ракам шыйкі маткі.

Адно з самых захапляльных адкрыццяў сучаснай біялогіі палягае ў тым, што смерць клеткі шчыльна звязаная з яе ростам і развіццём. Так, напрыклад, нервовыя клеткі арганізм вытварае ў колькасці большай за неабходную, і некаторыя з іх гінуць дзеля ўсталявання належных сувязяў у нервовай сістэме. Клетка ўтрымлівае «праграму самазнішчэння», якая актывізуецца, калі клетцы наносіцца незваротнае пашкоджанне. Ракавыя ж клеткі інакш рэагуюць на сігналы смерці. Некаторыя з генаў, задзейнічаных у праграме самазнішчэння, адносяцца да зменены генаў у ракавых клетках. Цяперашнім часам даследуецца магчымасць распрацоўкі новага падыходу да лекавання ракавых захворванняў праз актывацыю праграмы самазнішчэння ракавых клетак, не закранаючы пры гэтым нармальных клетак.

**© Project Syndicate, студзень 2002**

## Адкрылі ген даўгавечнасці

Згодна з міжнародным даследаваннем, мяркуецца, што ген, які атрымаў імя Клота (у грэцкай міфалогіі мойра Клота прала ніць чалавечага жыцця), адказвае за працягласць людскога жыцця.

Ген Клота сустракаецца значна часцей у арганізме нованароджаных, чым у людзей у веку пасля 65 гадоў; магчыма, ён у шмат якіх выпадках адказвае за раннюю смерць дзяцей, — такія тлумачэнні дала група даследчыкаў з Універсітэту Джона Хопкінса, якая працуе разам з экспертамі з Чэшскай Рэспублікі. Спецыялісты кажуць, што 3% нованароджаных, якія ўдзельнічалі ў гэтым эксперыменце, мелі па дзве копіі гэтай варыяцыі гену, па адной ад кожнага з бацькоў. Згодна з даследаваннем, уладальнікі гэтых дзвюх копій жывуць менш. І наадварот, толькі 1,1% людзей у веку за 65 гадоў мелі па дзве копіі гэтага гену.

Паводле словаў адмыслоўцаў, ген, які адказвае за працягласць жыцця, не звязаны ні з якім захворваннем. Базай для працы вучоных паслужылі эксперыменты, праведзеныя японскімі даследчыкамі, якія вырасцілі мышэй, пазбаўленых гену Клота, пасля чаго працягласць жыцця паддоследных прыкметна павялічылася.

**El Mundo, Іспанія**

## У Расіі мільён дзяцей-беспрытульнікаў

Іх у Расіі мільён. Вулічныя дзеці спяць на вакзалах, а ўдзень бавяць час, жабруючы, прадаючы наркотыкі на вуліцах і ў метро, чынячы дробныя крадзяжы.

У сапраўднасці 90% з іх яшчэ маюць бацькоў, да якіх маглі б вярнуцца. Але гэтыя дзеці жывуць на вуліцы якраз дзеля таго, каб уцячы ад сям'і, якую развальвае алкагалізм і гвалт – ці аднаго з бацькоў, ці абодвух. Выручаныя грошы дзеці трацяць на дыскі, на «нюхальны» клей або на ежу, што ідзе верхаводу іхняе групы – як правіла, падлетку, які бароніць іх ад другіх кланаў, але бярэ з кожнага падатак за права спаць на пэўным вакзале. У Маскве іх – 50 000, бальшыня прыбыла з правінцыі, каб жыць у сталіцы «па-дарасламу». Хлопчыкаў сярод іх цяпер 70%, але дзяўчат становіцца ўсё больш. Яны туляцца на лавах метро – 10-11-гадовыя клашары, нямытыя, здзічэлыя ад холаду, нястачы сну.

Кожны дзень міліцыя ловіць у метро да сотні дзяцей. Іх затрымліваюць на некалькі гадзін і потым адпускаюць, даўшы адзіную параду: «каб я цябе больш не бачыў». Між тым закон забараняе міліцыі забіраць дзяцей, калі тыя не ўчынілі злачынства. Здароўе бальшыні дзяцей падарвана, яны церпяць на хранічныя і заразныя хваробы – хваробы скуры і нават венерычныя, кішэчныя інфекцыі і г.д. Поруч з падзеннем нараджальнасці вось яшчэ адна вострая сацыяльная праблема, якую цяжка вырашыць у Расіі, што афіцыйна знаходзіцца на ўздыме.

**Le Temps, Швейцарыя**

# Жаночае шчасце – было б здароўе

*Пра сакрэты жаночага здароўя наша карэспандэнтка гутарыць з доктарам-гінеколагам мінскага Медыцынскага цэнтру на Смалячкова, 9 Таццянай Ермаловіч.*



Фота Ул.ШЛАПАКА

Спелеалячэбніца ў саляных копях Салігорску – вяртанне да маладосці

***— Таццяна Аляксандраўна, многія жанчыны гадамі не наведваюць гінеколага. Яны насамрэч здаровыя ці гэта ім толькі здаецца? І ўвогуле, цяпер больш хварэюць ці менш?***

— На жаль, многія прыходзяць, калі хвароба ўжо запушчаная. Я асабіста бачу тры асноўныя прычыны таго, што колькасць гінекалагічных захворванняў расце. Па-першае, важнае жаданне самой пацыенткі быць здаровай. А калі яна ідзе да доктара дзеля санітарнай кніжкі ці на прафагляд, ды толькі пасля таго, як пагоніць начальнік прадпрыемства, – толку не будзе. Па-другое, трэба, каб матэрыяльная база клінікі і кваліфікацыя доктара былі на належным узроўні. Па-трэцяе, у наш час жанчыны цікавяцца чым заўгодна, толькі не ўласным здароўем.

***— Давайце пачнем з трэцяй праблемы. Як пачынаюцца гінекалагічныя захворванні? Якія з іх найбольш «папулярныя»?***

— Усё пачынаецца з запаленчых працэсаў (цэрвіцыту, эндамерыту, аднексіту) і эрозіі шыйкі маткі. Яны могуць стацца прычынай развіцця перадракавага захворвання – дысплазіі. Я ні ў якім разе не хачу напужаць чытачак. Але яны мусяць ведаць, што бясшкодных хваробаў не існуе. Вельмі шырока распаўсюджаны інфекцыйныя захворванні, якія перадаюцца палавым шляхам. Небяспечнасць такіх хваробаў палягае ў тым, што доўгі час яны праходзяць бессімптомна. Цяпер радзей выяўляецца звычайная ганарэя, і часцей – хламідыёз, урэаплазмы і мікаплазмы. Узбуджальнікі гэтых хваробаў можна ахарактарызаваць як штосьці сярэдняе паміж мікробамі і вірусамі. Той самы хламідыёз можа драмаць 10 гадоў і стацца прычынай бясплоднасці. Лячэнне такіх хваробаў павінны праходзіць адначасова мужчына і жанчына.

***— Візіт да гінеколага, нават самага добразычлівага і высокакваліфікаванага, не прыносіць задавальнення проста таму, што сама працэдура агляду малапрыемная. Часта жанчыны аддаюць перавагу УГД (ультрагукавому даследаванню), каб упэўніцца, што ў іх няма новаўтварэнняў. Бо, як і раней, усе баяцца анказахворванняў.***

— Анкалагічныя захворванні не ўзнікаюць у здаровым арганізме. А выяўленая на ранняй стадыі анкалогія паспяхова лечыцца, у тым ліку і ў гінекалогіі. Вызначыць характар новаўтварэння можна толькі пасля дадатковага аналізу – біяпсіі.

Ультрагукавое даследаванне бясшкоднае і эфектыўнае, аднак многіх захворванняў пры такім абследаванні не відаць. УГД «не бачыць» запаленчых працэсаў, інфекцыйных хваробаў. Абследаванне шыйкі маткі на тыя ж новаўтварэнні магчымае толькі пры дапамозе кальпаскопа — спецыяльнага мікраскопа. Колькасць анкалагічных захворванняў шыйкі маткі расце ў першую чаргу з прычыны недастатковай дыягностыкі. Не ў кожнай жаночай кансультацыі ёсць кальпаскоп.

***— Усе жанчыны ведаюць, што аборты – гэта кепска, але не перастаюць іх рабіць. Мы не будзем казаць пра псіхалагічныя аспекты праблемы, пагаворым толькі пра здароўе. Лічыцца, што няма на 100% эфектыўных процізачаткавых сродкаў, ды і шкоды ад іх болей, чым карысці...***

— У інструкцыях да медпрэпаратаў пазначана, што іх эфектыўнасць складае прыкладна 98%. Самыя распаўсюджаныя механічныя сродкі – прэзерватыў ці спіраль – таксама не гарантуюць 100% бяспекі. Што тычыцца шкоды, то гэта цалкам магчыма, калі жанчына ўжывае таблеткі па прынцыпе «дапамагло сяброўцы, дапаможа і мне». Пры кампетэнтным індывідуальным падборы процізачаткавых сродкаў усялякія анамаліі выключаюцца. Тут улічваюцца шматлікія фактары: агульны стан арганізму, век, вага, інтэнсіўнасць сексуальнага жыцця і г.д. Варта дадаць, што калі жанчына паліць, для яе таксама існуюць абмежаванні ў выбары кантрацэптываў.

Большасць гарманальных прэпаратаў маюць і тэрапеўтычны эфект, улучна прафілактыку развіцця раку поласці маткі і яечнікаў. Жанчынам пасля 35-ці проціпаказаныя гарманальныя сродкі, але ім ёсць альтэрнатыва. Гэта крэмы, свечы, якія ўздзейнічаюць не на ўвесь арганізм, а лакальна, і маюць толькі процізачаткавы і процізапаленчы эфект.

***— Колькі ўчора было ў вас на прыёме пацыентак і якія суадносіны паміж тымі, хто прыйшоў з яўна выражанай хваробай, і тымі, хто прыйшоў проста па кансультацыю?***

— Так атрымалася, што ўчора да мяне прыехалі жанчыны з Мінскага раёну. Іх было 9 чалавек, яны працуюць у адной школе. І ўсе з мэтай проста «праверыцца». На жаль, карціна сумная. Не ўпэўненая, што абыдзецца без усялякіх там хламідый, гарднерэл і мікаплазмаў.

У звычайны дзень суадносіны пацыентак з сімптомамі хваробаў і тых, што прыйшлі на прафілактычны агляд, складаюць адпаведна 80х20.

***— Вашае стаўленне да рэкламы высокаэфектыўных процізачаткавых сродкаў і розных лекаў, што ўжываюцца ў гінекалогіі?***

— Да гэтага стаўлюся рэзка адмоўна. Як і кожны доктар. Самалячэнне недапушчальнае. Для лячэння кожнага захворвання існуе некалькі сродкаў. Падбор павінен ажыццяўляцца індывідуальна. Нельга забывацца і пра сумяшчальнасць лекавых прэпаратаў. Іншая справа – рэклама прэзерватываў. Мне, можа, не вельмі падабаецца змест рэкламных ролікаў і тое, што секс стаў чымсьці накшталт спорту. Пра каханне, духоўнасць у такім разе проста не можа ісці размовы. Тым больш трэба агітаваць за бяспечны секс. Увогуле, я не прыхільніца «мыльных опер», але некалькі серыяў з розных фільмаў бачыла. Ведаеце, мне спадабалася, што ў мамы і дачкі адзін доктар-гінеколаг. У нас жа дзяўчаткі, што мелі ранні сексуальны досвед, найчасцей баяцца ісці да гінеколага. Па месцы жыхарства – таму што няма гарантыі захавання таямніцы, а ў платную клініку – бо трэба неяк тлумачыць бацькам, на што патрэбныя грошы. Вельмі рэдка дзяўчаткі могуць давярыцца ў гэтых пытаннях маці.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

## Не спяшаюцца на конкурс

У камісію па правядзенні конкурсу на стварэнне тэксту і музыкі новага Дзяржаўнага гімна Беларусі пакуль не паступіла ніякіх прапановаў.

Пра гэта паведаміў сябра камісіі, дырэктар Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы НАНБ доктар філалогіі Уладзімір Гніламёдаў. Як адзначыў другі сябра камісіі — мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя Жыновіча, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Міхаіл Казінец, – Беларусь, як незалежная дзяржава, павінна мець свой гімн. «Неабходна ўлічваць, што гімн з'яўляецца афіцыйнай урачыстай песняй, сімвалам дзяржаўнага суверэнітэту краіны. Вось чаму гармонія, мелодыка і паэтычны тэкст новага гімна павінны быць больш яскравымі ў параўнанні з музыкай і словамі старога», — падкрэсліў Казінец.

Да 1 красавіка грамадскія арганізацыі, творчыя саюзы і грамадзяне могуць накіроўваць у камісію свае прапановы і варыянты тэксту і музыкі будучага гімна. У камісію, якую ўзначальвае віцэ-прэм'ер Уладзімір Дражын, уключаны міністры культуры і інфармацыі, прадстаўнікі парламенту, начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта, старшыня Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі, вядомыя музыканты і кампазітары, але няма ніводнага паэта.

«Магчыма, яны збіраюцца рабіць гімн без слоў», — так старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава пракаментавала той факт, што ў склад камісіі па правядзенні конкурсу на стварэнне тэксту і музыкі гімна не ўключаны ніводзін вядомы паэт.

**Марат ГАРАВЫ**

**СПОРТ**

## Паразы і надзеі

**«Белшына» ў Маскве «зльвае ваду»...**

У выхадныя ў Маскве стартаваў чарговы, дзесяты па ліку, «Кубак чэмпіёнаў Садружнасці» па футболе. Беларусь на гэтым турніры прадстаўляе чэмпіён краіны бабруйская «Белшына».

Усе каманды былі раздзеленыя на чатыры групы. У складзе групы «Д», акрамя «Белшыны», – эстонская «Флора», кыргызстанскі «СКА-ПВО» і клуб «Ніса» з Туркменістану. Каб трапіць у чвэрцьфінал, трэба было заняць у групе першае або другое месца.

У першай гульні беларускі клуб, які, дарэчы, зараз перажывае цяжкі фінансавы крызіс, сустракаўся з «Нісай» і прайграў з лікам 1:3.

А ў другой беларусы сустракаліся з эстонскай «Флорай». Лік 1:2 таксама не на карысць бабруйчан.

Такім чынам, пасля двух тураў «Белшына» страціла ўсе шансы дастойна прадставіць беларускі футбол нават на такім слабым па складзе турніры, як «Кубак Садружнасці».

**...А гандбалісты ў Мінску дораць надзею**

На жаль, аптымізм наконт адраджэння слаўных традыцый беларускага гандболу, якім прамяніцца некаторыя спартыўныя журналісты, відаць, у найбліжэйшай будучыні толькі аптымізмам і застанецца. Пасля дзвюх перамог у адборачным турніры да сусветнага гандбольнага першынства над балгарамі наша зборная пацярпела крыўдную паразу ў Рызе ад латвійцаў — 23:25. Але, на шчасце, у Мінску каманда здолела сабрацца і перамагла латвійцаў у Палацы спорту з лікам 35:31.

Цяпер у дзвюх наступных сустрэчах (дома і ў гасцях з камандай Літвы, якая лідзіруе) беларусам патрэбны толькі дзве перамогі альбо адна перамога і нічыя. У іншым выпадку наша каманда не патрапіць нават у сетку «плэй-оф», каб пазмагацца за выхад на чэмпіянат з куды больш моцнай камандай, чым цяперашняя яе супернікі ў групе.

**Эксперыментатары**

Крыўдна завяршыліся выступленні беларускіх біятланістаў і біятланістак на этапе кубку свету па біятлоне ў нямецкім Рупальдынгу. Гэта тычыцца найперш эстафетных гонак. Калі на жаночую каманду, якая заняла трынаццатае месца, ніхто не ўскладаў адмысловых спадзяванняў, то ад мужчынаў адзінаццатага месца не чакаў ніхто. Уся справа ў тым, што галоўны трэнер зборнай вырашыў паэксперыментаваць са складам і паставіў на гонку дэлёраў, а не наймацнейшых спартсменаў. І толькі на чацвёртым этапе выйшаў Вадзім Сашурын, які і выцягнуў нашых на адзінаццатае месца з пятнаццатага. Такое вось расце ў нас маладое пакаленне.

У асабістых гонках найлепшы з усіх вынікаў таксама належыць Вадзіму Сашурыну ў мужчынскай спрынтэрскай гонцы на 10 кіламетраў – адзінаццатае месца. Больш ніякімі поспехамі ганарыцца няма прычыны, бо іх проста няма.

А да Алімпіяды ў Солт-Лейк-Сіці засталося тым часам усяго толькі два тыдні.

**Аляксей СТАЎСКІ**

## Беларуская сенсацыя ў канькабежным спорце

На чэмпіянаце свету па спрынтэрскаму шматбор'ю, які праходзіць у нарвежскім Хамары, 31-гадовая канькабежка з Беларусі Анжэла Кацюга заваявала бронзавы медаль. Гэта першае дасягненне такога ўзроўню ў гісторыі беларускага жаночага канькабежнага спорту. Напярэдадні Анжэла Кацюга заваявала малы залаты медаль чэмпіяната ў бегу на 1000 метраў і малы бронзавы на адрэзку 500 метраў.

Анжэла Кацюга і яе трэнер і муж Ігар Пагарэлаў ужо даўно імкнуцца да сусветных вышыняў, аднак раней спартсменку падводзілі траўмы і недахоп практыкі на спаборніцтвах. Напярэдадні Алімпійскіх гульняў у Солт-Лейк-Сіці, па рашэнні міністэрства спорту і турызму Беларусі, спартсменка атрымала ўсё неабходнае для плённых трэніровак узімку на абсаліне, у выпадку няўдачы, вярнуць сродкі, затрачаныя на яе падрыхтоўку да Алімпіяды. Алімпійская праграма Анжэлы Кацюгі прадугледжвае трапіць у васьмёрку наймацнейшых.

**Юрый ФЁДАРАЎ**

# Бацька і сын?

*Як таямніца смерці Напалеона, нібыта атручанага англічанамі на востраве Св.Алены, перыядычна непакоіць аматараў гісторыі, гэтаксама не змяншаецца і цікавасць да загадкі – хто быў сапраўдным бацькам Сталіна. Найрад ці разгадка, калі яна ўвогуле магчымая, растлумачыць прычыны паводзінаў ці карані жорсткасці найбуйнейшага дэспата XX стагоддзя, але кожная таямніца — як скарб, які надта хочацца знайсці ці хоць бы наблізіцца да яго. З гэтай, відаць, прычыны ў заходняй прэсе мінулай восенню друкавалі пра тое, што шпалеры, якімі быў абіты пакой Напалеона, былі насякнутыя мыш'яком і яго пара скарыціла век вязня, а вось пачатак гэтага году адзначаны ўвагай да каранёў Сталіна.*





Калі верыць звесткам, якія пратачыліся ў друк, дык згодна з метрычнай кнігай, у якой занатоўваліся даты смерці і нараджэння жыхароў гораду Горы, Іосіф Вісарыёнавіч Джугашвілі нарадзіўся не 21 снежня 1879 году (афіцыйная дата нараджэння), а на год раней — 6 снежня 1878 году. На думку гісторыкаў, якія даследуюць біяграфію Сталіна і асабліва яго́ныя дзіцячыя гады, менавіта гэтая акалічнасць дазваляе меркаваць, што бацькам Сталіна быў не бедны грузінскі шавец, а высакародны шляхціч, знакаміты падарожнік і вучоны Мікалай Міхайлавіч Пржэвальскі. Гэты зацяты даследнік Далёкага Усходу і Цэнтральнай Азіі, найбольш вядомы сваім адкрыццём віду дзікага каня (ідэнтычнага таму, што вадзіўся ў Еўропе ў эпоху палеаліту), падчас экспедыцыі на Тыбет захварэў. Ранняй вясной 1878 году, ён прыехаў падлячыцца на Каўказ, у горад Горы, дзе прыняў мясцовы грузінскі князь Мамінашвілі. У яго́ным доме Пржэвальскі пазнаёміўся са сваячкай князя Кацярынай, якая за чатыры гады да таго стала жонкай рамесніка Вісарыёна Джугашвілі.

Муж Кацярыны быў паважаны ў горадзе чалавек, але сямейнае жыццё Вісарыёна і Кацярыны было пакутлівым. Трое іхных дзяцей памерлі ў раннім веку, і Вісарыён Джугашвілі праз гэтае няшчасце пачаў дужа піць і біць жонку. П'янства прывяло да беднасці, Кацярына мусіла пайсці працаваць, і гэта дало ёй пэўную самастойнасць. Жанчына зачаравала Мікалая Пржэвальскага, і ў іх пачаўся раман. Што дакладна звязвала гэтых людзей, якія паміж імі былі адносіны, невядома, але, паводле ўскосных сведчанняў, шэраг даследнікаў лічаць, што якраз пасля ад'езду Пржэвальскага жонка Вісарыёна нарадзіла здаровага хлопчыка. Вось гэтага хлопчыка і назвалі Іосіфам.

Унучка Сталіна Галіна не лічыць сябе праўнучкай Мікалая Міхайлавіча Пржэвальскага, але прызнае ўражальнае падабенства паміж імі і пацвярджае, што і пасля ад'езду з Горы знакаміты падарожнік дасылаў Кацярыне грошы. Праўда, тое не надта доўга цягнулася, бо ў 1888 годзе падчас экспедыцыі ў Кіргізіі Мікалай Пржэвальскі памёр, дзе і быў пахаваны. Сталін у 1946 годзе без відавочнай падставы і нагоды раптам загадаў адліць залаты медаль у гонар Мікалая Пржэвальскага, і гэта таксама можа сведчыць, пра тое, што ён памятаў чалавека, якога, відаць, кахала яго маці.

Гэтая таямнічая гісторыя цікавая яшчэ і тым, што продкі вучонага паходзілі з беларускае шляхты. Прозвішча прадзедаў было Перавальскія. У сярэдзіне XVII стагоддзя падчас каталізацыі і паланізацыі Перавальскія, змяніўшы праваслаўную веру на каталіцкую, запісаліся на польскі лад – Пжэвальскімі (*Przewalski*). Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе дзед вучонага, які тады вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, адрэагаваў на крутыя палітычныя змены навяртаннем у праваслаўе і зменай імя Казімір на рускае Кузьма. Але прозвішча пакінуў ранейшае. Не надта адукаваныя пісцы пры запісванні прозвішча падзялілі гук «ж», запісаны дзвюма літарамі (*rz*), на два, з чаго атрымалася можа і арыгінальнае, але недарэчнае «Пржэвальскі». Яго́ны сын Міхаіл атрымаў ужо цалкам рускае выхаванне, служыў у расійскім войску, удзельнічаў у задушэнні паўстання 1831 году і выйшаў у адстаўку штабс-капітанам. Тым не менш сямейная гісторыя трымала памяць, што шляхецкую годнасць і герб яны атрымалі ад Стэфана Баторыя, за мужнасць і геройскія ўчынкі ў паходзе на Пскоў і Вялікія Лукі.

Якія адносіны былі насамрэч паміж маці Сталіна і Пржэвальскім, ніхто цяпер высветліць ужо не зможа. Але пэўна Іосіф Джугашвілі меў падставы часам гадаць, хто ж яго́ны сапраўдны бацька – бедны п'яніца шавец ці знакаміты расійскі навуковец. З гледзішча сучаснай псіхалогіі, тут ёсць падставы для нараджэння цяжкага псіхічнага комплексу. Бо малады чалавек не мог не асэнсоўваць, што яго лёс быў бы іншым, калі б ён меў прозвішча не Джугашвілі, а Пржэвальскі, быў бы не грузін, а рускі са смаленскай шляхты і вучыўся б не ў правінцыйнай семінарыі, а, як бацька, у сталічным юнкерскім вучылішчы.

Можа і Пржэвальскі часам думаў пра гэтага хлопчыка, не ўяўляючы нават блізка, які лёс чакае яго і колькі няшчасцяў прынясе людзям гэты плод яго́нага кароткага кахання з прывабнай грузінкай.

**Алена КАЗАКЕВІЧ**

# Калі размаўляць з дзецьмі пра секс

Магчыма, самае распаўсюджанае пытанне пра полавае выхаванне, якое задаюць бацькі, — у якім веку трэба пачынаць гаварыць з дзецьмі на гэтую тэму. На гэтае пытанне ёсць адзін адказ: з моманту іх народзінаў. Сексуальнае жыццё – частка жыцця кожнага чалавека, і таму ставіцца да яго трэба спакойна, а не як да нечага забароненага. Адказваць дзіцяці фразай «ты яшчэ зусім маленькі, я раскажу табе ўсё, калі вырасцеш» або «я цяпер не магу гаварыць, у мяне на пліце вячэра падгарае», калі ён пытаецца, адкуль з'яўляюцца дзеці, што такое коітус або што гэта за пакуначак (з прэзерватывамі), які ён знайшоў у ванным пакоі, – гэта, бадай, няслушная палітыка. Так мы паказваем дзецям, што сексуальнае жыццё – тэма, пра якую размаўляць не трэба. І дзеці гэта запомняць. Калі, вырасшы, яны пачнуць сустракацца з прадстаўнікамі іншага полу, знойдуць сабе пару, а вы, што клапоціцеся пра іх, вырашыце, што дзеці ўжо вялікія і могуць пытацца ў вас пра што заўгодна, – хутчэй за ўсё, яны гэтага рабіць не будуць. А калі вы самі закранеце гэтую тэму, не стануць вас слухаць. Таму не пазбягайце размоваў з сваімі дзецьмі пра гэта ў любым веку. Вы толькі мусіце пастарацца, каб тлумачэнне было зразумелым для іх. Некаторым бацькам рупіць, што яны ніяк не могуць знайсці прыдатнага моманту, каб распачаць размову пра гэта. Але ж у нашым жыцці здараецца шмат сітуацый, якія так ці інакш звязаныя з сексам і могуць даць нам цудоўную нагоду, каб пагутарыць на гэтую тэму.

З іншага боку, калі вы заўсёды імкнуліся адказваць на пытанні вашых дзяцей пра секс натуральна, то можаце не турбавацца. Калі яны ў нечым засумняваліся, яны заўсёды папросяць у вас парады.

З аднаго боку, мы хочам, каб нашыя дзеці ведалі ўсё пра бяспечны секс (як папярэдзіць нежаданую цяжарнасць або не заразіцца хваробай, якая перадаецца полавым шляхам), але не надта часта даём ім такую інфармацыю (бо на гэта ёсць «спецыялісты»). І нягледзячы на нашае жаданне, каб яны былі добра абазнаныя, нас не задавальняе, калі ў школе праводзяцца заняткі, прысвечаныя полаваму выхаванню (бо мы не хочам, каб ім давалі ўяўленне пра гэтую тэму, хоць ніводнае з праведзеных даследаванняў не паказвае, што сексуальнае выхаванне павялічвае колькасць полавых сувязяў сярод падлеткаў), або калі ў сярэдняй школе ўсталёўваюць аўтаматы па продажы прэзерватываў.

У кожным выпадку, самае галоўнае, каб гэтую інфармацыю (аб'ектыўную, сапраўдную і немаралізаваную!) яны атрымлівалі ад вас, а не ад сваіх сяброў, якія прыўкрасяць яе міфамі і аздобяць падрабязнасцямі.

**La Vanguardia, Іспанія**

## Хор атрымаў дыплом

Хор са Свята-Мікалаеўскай царквы Брэсту ўшанаваны дыпломам першай ступені на міжнародным фестывалі калядных хораў, які прайшоў 20 студзеня ў Цярэспалі (Польшча).

У фестывалі бралі ўдзел 24 хоры з Польшчы, Расіі і Беларусі. У іх ліку — тры калектывы з Брэсцкай вобласці: хоры з Клейнік і Астрамечава Брэсцкага раёну, а таксама царкоўны хор Свята-Мікалаеўскай царквы Брэсту пад кіраўніцтвам Іраіды Іванчанкавай.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Золата купляюць зліткамі

За пяць месяцаў рэалізацыі Нацыянальным банкам залатых злиткаў насельніцтва і прадпрыемствы выкупілі іх каля 2-х тысяч штук. Агульная вага купленага золата склала больш за 40 кг. Асаблівай папулярнасцю карысталіся зліткі ў 1 грам і 5 грамаў. Пры гэтым купляюцца зліткі вагой у 500 і 1 000 грамаў. З 17 студзеня цана продажу галоўным банкам краіны аднаго грама золата ў мерным злітку юрыдычным і фізічным асобам складае 21 тысячу 824 рублі, пяці грамаў – 82 тысячы 940 рублёў.

**Аляксей АРЭШКА**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1112 Нумар падпісаны ў друк 22/01/2002 (15:00) Наклад – 8.150